№ 3 (840) 22 студзеня 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў 1991. Выдавец прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## «Дарам валхвоў» усяго 500 гадоў

А ўсё адно людзі стаяць у чэргах, каб пабачыць. Старонка 12.



## Топ-5 самых дарагіх катэджаў краіны

Цэны дасягаюць $2,6 мільёна. Старонка 6.



# Бацькоўскі край, ты як здароўе

## Не цэнім маючы, а страцім залатое — бяда…





Мікалай Пінігін паставіў у Купалаўскім «Пана Тадэвуша». Старонка 11.

ВАДЗІМ ЗАМІРОЎСКІ / TUT.BY

### Палітыка

**Украіна ў агні**

А ўкраінская апазіцыя апынулася ў пастцы.

**Старонка 3.**



### Лепшыя людзі

**Як жыве раённая «хуткая»?**

Адзін дзень з жыцця медыкаў з Добруша.

**Старонка 4.**



### Талент

**Жыве між нас Пекар**

Кастусю Ларкову з Верхнядзвінска заказы ідуць нават са сталіцы! **Старонка 9.**



### Культура

**Як жыла эліта пры сацыялізме**

Дачка Івана Шамякіна настальгуе па Сталіну.

**Старонка 9.**



### Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Бяляцкага вызваляць?

«Калі сплаціў шкоду, павінна быць разгледжана пытанне пра яго амністыю».

Аляксандр Лукашэнка даручыў першаму намесніку сваёй адміністрацыі Аляксандру Радзькову «праверыць» інфармацыю пра тое, што прадстаўнікі грамадскасці даўно кампенсавалі шкоду, якую, як устанавіў суд, нанёс дзяржаве праваабаронца Алесь Бяляцкі. Пра гэта Лукашэнка заявіў на сустрэчы з кіраўнікамі беларускіх СМІ, адказваючы на пытанне дырэктара БелаПАНа Алеся Ліпая.

«Гэта сур'ёзны аргумент. Тут справа не ў палітыцы і не ў пазіцыі самога Бяляцкага», —заявіў ён. Паводле словаў Лукашэнкі, калі інфармацыя аб кампенсацыі шкоды пацвердзіцца, —а яна адпавядае рэчаіснасці, — «павінна быць разгледжанае пытанне пра ўжыванне да Бяляцкага амністыі».

Што да вызвалення эксгкандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча, то ад яго Лукашэнка патрабуе напісаць прашэнне аб памілаванні. Прычым нават без прызнання віны, абы было прашэнне. Марына Адамовіч, жонка Статкевіча, пераканаецца, што Мікола не будзе пісаць ніякага прашэння: невінаватых не мілуюць.

**Інф. БелаПАН**

# Як старшыня камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама Сірэнка сем хвілін круціў галавой у адказ на пытанні

15 студзеня журналіст «Нашай Нівы» перажыў незабыўныя хвіліны. Усё пачалося з жадання даведацца больш пра камісію, створаную 8 студзеня пры камітэце па ахове здароўя Мінгарвыканкама, якая разглядае патрабаванні пратэстоўцаў з «хуткай дапамогі».

Пра дзейнасць камісіі і яе прапановы вядома мала, і лагічна было задаць пытанне чалавеку з сістэмы — старшыні камітэта па ахове здароўя Віктару Сірэнку.

Звязацца з Сірэнкам стала амаль немагчымай задачай. Ад самай раніцы да 3-й гадзіны дня, паводле адказу сакратаркі, яго не бывае ў офісе: Сірэнка ці ў Мінгарвыканкаме, ці ў Міністэрстве аховы здароўя. Пасля 15-й ён прыходзіць у свой кабінет, але вельмі заняты і не можа адказаць. Занятасць доўжыцца ў сярэднім ад 15 да 25 хвілін. Пасля яна звычайна падаўжалася на 10 хвілін, пасля чаго сакратарка пераставала браць слухаўку, а потым скончваўся працоўны дзень...

Праз некалькі дзён стала ясна, што шанцаў пачуць нават «без каментароў» ад Віктара Іванавіча няма. Але раптам з'явіўся промень надзеі: 15 студзеня — трэцяя серада месяца, абавязковы прыёмны дзень у Сірэнкі. На дзіва, сакратарка пагадзілася запісаць мяне: «Можна на 15:00. Вам пасуе гэты час?»

Трэба адзначыць: Сірэнка аказаўся пунктуальным і спазніўся роўна на 15 хвілін. Ён зайшоў у свой кабінет, каб распрануцца. Усе вакол замітусіліся. З'явілася жанчына, напэўна, намесніца Сірэнкі. Яна назвала нумар кабінета, у якім праходзіць прыём грамадзян. Яшчэ раз пацікавілася, якое выданне я прадстаўляю. Сірэнка і яго памочніца пайшлі першымі. Раптам да мяне падышла сакратарка і нібыта ўпотай спытала: «У вас, спадзяюся, нейтральныя пытанні?»



**Неўязны доктар**

Віктар Сірэнка — не проста доктар і не проста чыноўнік. Кар'еру ён пачынаў урологам у Барысаўскай раённай бальніцы, а да Плошчы-2010 працаваў галоўным урачом Мінскай бальніцы хуткай дапамогі. Менавіта сюды медыкі прывезлі з чэрапна-мазгавой траўмай кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева. З маўклівай згоды кіраўніцтва бальніцы КДБісты вывезлі Някляева проста з палаты. А журналістам у бальніцы афіцыйна заявілі: Някляеў выпісаўся і сышоў сам… З дыягназа тым часам знікла згадка пра чэрапна-мазгавую траўму, засталіся толькі «ўдары мяккіх тканак».

Праз месяц Сірэнка быў уключаны ў спіс неўязных у Еўрасаюз. А ў маі 2011 атрымаў «кампенсацыю» — узначаліў камітэт па ахове здароўя Мінгарвыканкама.

У пакоі для прыёму за авальным сталом усеўся Сірэнка з памочніцай, насупраць пасадзілі мяне. Я дастаў тэлефон, уключыў дыктафон, паклаў яго перад сабой. Далей гутарка ішла наступным чынам:

— Добры дзень, Віктар Іванавіч, я журналіст «Нашай Нівы». Прыйшоў да вас на прыём, бо, на жаль, не змог датэлефанавацца. Я цікаўлюся лёсам пратэсту медыкаў хуткай дапамогі. Ці можаце вы расказаць пра нейкія вынікі працы камісіі?

Сірэнка моўчкі ківаў галавой.

— Прабачце?

Сірэнка працягваў ківаць і развёў рукамі.

— Прабачце, вы не хочаце адказваць на пытанне? Можаце, калі ласка, адказаць што-небудзь?

Сірэнка адмоўна пакруціў галавой.

— Можа, раскажаце пра сустрэчу з медыкамі 8 студзеня? Які бок ініцыяваў сустрэчу?

Сірэнка маўчаў.

—Добра. Можаце, калі ласка, расказаць пра склад камісіі? Якія спецыялісты ў яе ўвайшлі?

Сірэнка маўчаў.

— Ёсць яшчэ адно пытанне. Чаму ні на сайце камітэта па ахове здароўя, ні на сайце Мінгарвыканкама не з'явілася паведамленне пра стварэнне камісіі?

Нарэшце Сірэнка амаль шэптам сказаў: «Вы атрымаеце адказы ў пісьмовым выглядзе па адрасе, які ўказалі пры рэгістрацыі на сустрэчу».

Я пацікавіўся, якім чынам мне адкажуць на пытанні, якія нават не запісваюцца.

«Запісваюцца», — прашаптаў Сірэнка.

У наступны момант сакратарка моўчкі паказала рукой на купу рэчаў на стале. Там, паміж стосам нейкіх штодзённікаў і яшчэ чымсьці, ляжаў дыктафон (пра які, дарэчы, не папярэдзілі, як таго патрабуе «Закон аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб»). Хоць за некалькі хвілін да гэтага Сірэнка жэстамі запэўніваў, што любая фота- і відэаздымка ў дадзенай сітуацыі забароненая (але якім законам гэта забараняецца, патлумачыў развёўшы рукамі.

Падчас размовы з Сірэнкам некалькі разоў мяне цягнула засмяяцца, бо сітуацыя нагадвала тэатр абсурду: перад мною сядзіць чыноўнік, адказны за ўсю ахову здароўя двухмільённага горада, якога я, як і мае бацькі і калегі, фінансую са сваіх падаткаў. І ён, нібыта дзіця, гуляе ў маўчанку, час ад часу ківае галавой і разводзіць рукамі.

**Кірыла Хілько**

## Сцісла

**Даляр абнаўляе рэкорд за рэкордам**

Афіцыйны курс амерыканскай валюты дасягнуў 9580 рублёў. У абменніках курс яшчэ большы, аж да 9670 рублёў.

**Кожны другі калодзеж у Беларусі непрыдатны**

Выкарыстанне калодзежнай вады для піцця можа абярнуцца сур'ёзнымі праблемамі са здароўем. Вада прыкладна 40-60% з іх (усяго іх налічваецца каля 45 тысяч) змяшчае празмерную колькасць нітратаў. Візуальна вызначыць небяспечную ваду немагчыма, яна ўсё адно будзе празрыстай. А захворванні «з калодзежа», вылічваюцца дзясяткамі: ад атручвання да сардэчнай недастатковасці.

**Выкінуў дзяўчыну з вакна**

У кватэры ў мінскім мікрараёне Каменная Горка п'яны 40-гадовы мужчына, раней судзімы за разбой, выкінуў 20-гадовую дзяўчыну з акна. Дзяўчына цудам выжыла, яна з чэрапна-мазгавой траўмай, пераломамі касцей тазу і перадплечча змешчана ў бальніцу. Заведзена крымінальная справа па артыкуле «Замах на забойства».

**У Жанны Фрыске рак**

У 39-гадовай расійскай поп-спявачкі неаперабельная пухліна мозгу. Хвароба выявілася праз некалькі месяцаў пасля таго, як Фрыске нарадзіла першае дзіця. Бацькам стаў беларус Дзмітрый Шэпелеў, які робіць кар'еру тэлевядучага ў Расіі і Украіне.

**ЯМ**

## Апытанне на nn.by

**Якія каштоўнасці для Вас найважнейшыя?**

| | | |
|---|---|---|
| Сям'я | 1703 | 22% |
| Свабода | 1406 | 18% |
| Здароўе | 1326 | 17% |
| Радзіма | 971 | 13% |
| Каханне | 717 | 9% |
| Грошы | 508 | 7% |
| Дом | 493 | 6% |
| Сэкс | 342 | 4% |
| абы вайны не было | 180 | 2% |
| машына | 92 | 1% |

Пададзена 7 738 галасоў (можна было выбіраць некалькі варыянтаў)

## Самае чытанае на сайце nn.by за 15—21 студзеня

# Украіна ў агні

А ўкраінская апазіцыя ў пастцы.

Тупік у Кіеве: вуліца застаецца масава незадаволенай прэзідэнтам Януковічам, але законных спосабаў выканання сваіх патрабаванняў не бачыць. У выніку нервы здалі, і на Вадохрышча некалькі тысяч дэманстрантаў адправіліся на штурм будынка Вярхоўнай Рады. Лідар апазіцыі Віталь Клічко ўстаў у іх на дарозе, дык яго абкацілі з агнягасніка.

Не тое што ў Мінску, дзе шуру-буру ўзнялі парай выбітых шыбаў, — у Кіеве спецназ у мароз хрысціў пратэстоўцаў з вадамётаў, а людзі міліцыю — агнём, кактэйлямі Молатава.

Сутычкі на вуліцы Грушэўскага цягнуліся ноч і дзень.

Выбух незадаволенасці адбыўся ў выніку прыняцця ўрадам блоку законаў, што абмяжоўваюць грамадзянскія правы, а таксама дзяржаўнага бюджэту без абмеркавання. Украінцы баяцца і дыктатуры, і продажу ўкраінскіх інтарэсаў Расіі.

Пасля непадпісання дамовы аб асацыяцыі з Еўрасаюзам Януковіч узяў курс на Маскву.

Як расказаў нам кіеўскі дапісчык «Нашай Нівы» Васіль Бабіч, народ страшэнна расчараваны таксама палітычнымі лідарамі апазіцыі, асабліва Яцанюком і Цягнібокам. На думку людзей, Януковіч проста цягне час і загаворвае сітуацыю, а апазіцыянеры не ведаюць, што рабіць. Людзі стаміліся стаяць на Майдане на марозе.

Апазіцыя трапіла ў пастку ўласных сцэнароў. Спіраль радыкалізму раскруцілася, і вуліца хоча заклікаў да рэвалюцыі. Але за такі заклік можна трапіць у турму.

Украінскай апазіцыі ўдалося вывесці людзей на вуліцы ў дзівосных колькасцях, але не ўдалося стварыць двоеўладдзе, як не ўдалося і арганізаваць агульнанацыянальную забастоўку. Часткі спецпрызначэння падтрымліваюць Януковіча, а гэта вырашальны фактар ва ўмовах сілавога супрацьстаяння, бо сілы спецслужбаў ці армія, хоць і настроеныя супраць Януковіча, не маюць законных падставаў, каб умяшацца ў сітуацыю.

На думку Васіля Бабіча, дэмакратычных выбараў ва Украіне больш не будзе, а таму марна спадзявацца на перамогу апазіцыі ў 2015-м. А вось знаны амерыканскі палітолаг Збігнеў Бжазінскі, наадварот, заявіў на мінулым тыдні, што нягледзячы на часовыя поспехі час Януковіча палічаны. Украінцы ўжо адчулі сябе незалежным народам і хутка зменяць сваю сістэму на еўрапейскую.

**Мікола Бугай**



Дэманстрант у Кіеве атакуе байцоў Віктара Януковіча.

# У Гомелі на выбары падаўся папугай

Мясцовыя выбары праходзяць у панылай атмасферы безальтэрнатыўнасці.

Вы ведаеце прозвішча свайго дэпутата? Зусім ніхто не ведае, вынікае з апытання, якое зрабілі карэспандэнты «Нашай Нівы» на вуліцах Мінска. Усё таму, што нашы дэпутаты нічога не вырашаюць.

Некаторыя дзеячы апазіцыі вырашылі ўсё ж у выбарах паўдзельнічаць, каб пры гэтай нагодзе парадаваць людзям праўдзівую інфармацыю і звярнуцца з трыбуны дзяржаўных СМІ, якія ў іншых выпадках закрытыя для іншадумцаў.

Дакументы на рэгістрацыю падалі старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, намеснік старшыні Руху за Свабоду Алесь Лагвінец. Але нікога з іх не зарэгістравалі: прычапіліся да таго, што яны для перастрахоўкі падалі дакументы адразу ў некалькіх акругах. Дык жа, іх не пусцілі на выбары нідзе.

А вось кіраўнік партыі «Справядлівы свет» Сяргей Калякін будзе (у каторы раз) балатавацца ў Мінску.

Лідар Хрысціянскіх дэмакратаў Павел Севярынец заклікае да актыўнага байкоту. Ён хоча, каб актывісты выкарысталі выбары толькі для тлумачэння людзям сітуацыі ў краіне і таго, у чым ёсць сапраўдны народны інтарэс у наш час.

Выбарчыя камісіі, як і ў мінулыя разы, складзены з людзей, выбраных выканкамамі, а назіральнікі ў нас не маюць права адсочваць падлік галасоў да бюлетэня. У гэтым адрозненне Беларусі ад дэмакратычных краін, якое робіць выбары непразрыстымі.

У Гомелі група вясёлых жыхароў падала на рэгістрацыю дакументы на папугая Яшы. Адзін з жартаўнікоў, Кастусь Жукоўскі, кажа, што нават не думаў, што дакументы Яшы прымуць.

Да іхнага здзіўлення, прадстаўніца выбаркама некалькі разоў паглядзела на фотаздымак папугая на старонцы і... прыняла паперы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы «Якава Іосіфавіча Жукоўскага».

Тады гамельчукі далі задні ход і папрасілі скасаваць рэгістрацыю папугая.

**МБ**

Фотафакт


**Старшыня Мінскага гарвыканкама таксама палез у палонку на Вадохрышча. 54-гадовы Мікалай Ладуцька прыняў купель у спецыяльнай кашулі, што рабіла кіраўніка горада падобным да анёла. Дарэчы, адкуль узялася гэтая мода купацца ў мароз, на Вадохрышча? Не прыпомнім, каб нашы дзяды і бацькі такім займаліся.**

# «Уралкалій» даў Кітаю зніжку 24%

Гэта азначае, што валютная выручка «Беларуськалія» і Беларусі ў цэлым у 2014-м будзе нізкай.

Расійскі «Уралкалій» падпісаў кантракт на пастаўку калію ў Кітай — найбуйнейшы рынак калійных угнаенняў. Цана аказалася істотна ніжэйшай проці леташняга кантракта, паведамляе кампанія.

Згодна з кантрактам, «Уралкалій» у 1-м паўгоддзі экспартуе ў Кітай 700 тыс. тон калію па $305 за тону, што на 24% ніжэй за мінулагоднюю цану, якая складала 400 даляраў за тону.

«Кантракт падпісаны з кансорцыумам на чале CNAMPGC, адной з найбуйнейшых кітайскіх аграхімічных карпарацый», — гаворыцца ў паведамленні «Уралкалія».

Падпісанне кантракта на такіх умовах прывядзе да захавання адносна нізкіх цэнаў на хлоркалій на сусветным рынку. Ад гэтага ў 2014 годзе пацерпіць «Беларуськалій», сабекошт здабычы калійных соляў на шахтах якога вышэйшы, чым у расійскай кампаніі.

Картэль «Беларуськалія» і «Уралкалія» распаўся ў 2014 годзе са скандалам.

Дарэчы, адвакаты Уладзіслава Баўмгертнера падалі хадайніцтва пра вызваленне яго з-пад хатняга арышту ў Маскве.

**Сяргей Гезгала**

**Даслоўна**

## Адкрыты ліст выпускнікоў ЕГУ ў сувязі з унутраным канфліктам ва ўніверсітэце

Мы, выпускнікі ЕГУ, надзвычай занепакоеныя той няпростай сітуацыяй, якая склалася ў нашым універсітэце.

Перш за ўсё мы хочам выказаць шчырую падзяку ўсім супрацоўнікам універсітэта, якія працавалі над праектам ЕГУ ў Мінску і якія пазней здолелі паспяхова адрадзіць універсітэт у Вільні.

Сёння ЕГУ зноў знаходзіцца ў стане трансфармацыі, што выклікана неабходнасцю адпавядаць сучасным літоўскім і міжнародным стандартам адукацыі. У СМІ з'явілася нямала паведамленняў, якія сведчаць пра існаванне супрацьстаяння ўнутры ўніверсітэта. Адміністрацыя прыкладае намаганні па аптымізацыі менеджменту, кадравай палітыкі і бюджэту навучальнай установы. У гэты ж час істотная частка выкладчыкаў заяўляе пра сваю адлучанасць ад працэсу прыняцця рашэнняў ва ўніверсітэце.

На жаль, дыскусія адносна таго, якой мае быць будучыня ЕГУ, прымае небяспечную форму. Гэта, у сваю чаргу, негатыўным чынам адбіваецца на навучальным працэсе, іміджы ўніверсітэта і выніках уступнай кампаніі. Нам балюча назіраць, як унікальны адукацыйны праект няславіць сваю рэпутацыю.

Мы асобна звяртаем увагу на тое, што ў апошнія гады ва ўніверсітэце сфармаваўся сапраўды ўнікальны педагагічны асяродак. Гэта выкладчыкі высокага ўзроўню, якія прапанавалі нам адрознае ад афіцыйна-дзяржаўнага стаўленне да адукацыйнага працэсу і асобы студэнта. Дзякуючы ім мы навучыліся крытычна мысліць, знаходзіць творчыя падыходы і ўсведамляць сваю адказнасць перад беларускім грамадствам. Мы давяраем нашым выкладчыкам, а таксама спадзяемся, што ў выніку рэформаў для іх будуць створаныя ўсе неабходныя ўмовы для педагагічнай і навуковай дзейнасці.

Мы заклікаем кіраўніцтва ЕГУ звярнуць пільную ўвагу на існаванне ўнутраных супярэчнасцяў ва ўніверсітэце, а таксама стварыць больш спрыяльныя ўмовы для таго, каб розныя галасы маглі быць пачутымі.

Мы заклікаем усе бакі канфлікту адмовіцца ад прыватных амбіцый і катэгарычных фармулёвак. Памятайма пра нашую асаблівасць. Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт заўжды годна пераадольваў выпрабаванні; у значнай ступені дзякуючы таму, што нас аб'ядноўвала агульная «ідэя Універсітэта». Няхай так будзе і надалей.

**Алесь Герасіменка, Настасся Яўмен (Сяменчык), Таццяна Елавая, Цімох Акудовіч, Аляксандр Аўтушка-Сікорскі, Андрэй Вашкевіч, Кірыла Атаманчык, Аляксандр Адамянц, Арыф Александровіч, Глеб Хамутоў, Дар'я Сітнікава, Аля Сідаровіч, Кацярына Сцяпанава, Ганна Шадрына, усяго 148 подпісаў**

# Як жыве раённая «хуткая»?

Адзін дзень з жыцця медыкаў з правінцыі.

Сталічныя работнікі хуткай дапамогі скардзяцца на нізкі заробак, маўляў, за працу на паўтары стаўкі ім плацяць каля 3,5 мільёна рублёў. Афіцыйныя асобы пярэчаць: доктар на «хуткай» за паўтары стаўкі мае больш за 7 мільёнаў рублёў, а сярэдні медыцынскі персанал — каля 5 мільёнаў.

А як працуецца ў райцэнтрах? Мы накіраваліся ў Добруш, каб даведацца, ці задавальняюць людзей у правінцыі ўмовы працы і заробак.

### Нашыя фельчары — як дактары

У Добрушскай цэнтральнай раённай бальніцы нас сустракае намесніца галоўнага доктара Ала Маскаленка. «Насельніцтва раёна, а гэта больш за 38 тысяч чалавек, абслугоўвае тры з паловай брыгады хуткай дапамогі. У Добрушы знаходзіцца аддзяленне «хуткай», а ў гарадскім пасёлку Церахоўка — пост, там дзяжурыць адна брыгада», — расказвае яна.

На балансе медыкаў пяць аўтамабіляў — «Газелі», УАЗік і адзін «Фіят» (дзякуй гуманітарнай дапамозе).

Ніводнага доктара ў брыгадах няма, толькі 15 фельчараў. «Гэта вельмі вопытныя спецыялісты, вядома ж, па 15—20 гадоў працуюць на адным месцы! І роды прымалі, і ціск збівалі, і дзяцей забіралі ў бальніцу з тэмпературай — так ці іначай кожны сутыкаўся з «хуткай», дый не раз. Па прафесіяналізме і практычным вопыце наўрад ці яны саступаюць дактарам», — пераконвае Ала Маскаленка.

Добруш знаходзіцца непадалёку ад Гомеля, усяго 30 км, таму і амаль цалкам укамплектаваны спецыялістамі. «Наш раён лічыцца чарнобыльскім, таму мы давалі выпускнікам нашых школ мэтавыя накіраванні ў медуніверсітэт. Цяпер вярнуліся дахаты, працуюць. У «запасе» вучацца наступныя нашы студэнты, яшчэ на пяць гадоў хопіць спецыялістаў», —кажа намесніца галоўнага доктара.

Паводле яе словаў, сярэдні заробак у фельчараў «хуткай» — 4,6 мільёна рублёў, кіроўцы і санітары маюць каля 3,8 мільёна. Гэта з улікам «чарнобыльскай» надбаўкі (да 25%) і працэнтаў за складанасць і напружанасць працы.

### На працоўным месцы

Аддзяленне «хуткай» размешчана ў будынку мясцовай паліклінікі. Там некалькі пакояў — дыспетчарская, працэдурная, асобныя пакоі адпачынку для кіроўцаў і для фельчараў. У пакоі для фельчараў — лядоўня, мікрахвалёўка, чайнік. За суткі ў сярэднім на раённую «хуткую» паступае 34 выклікі. Служба часам мае патрэбу ў дапамозе «экстранных» калег. Так, да неадэкватных кліентаў, якіх у райцэнтры ўжо добра ведаюць, выязджае «хуткая» з міліцыянерам. Часам патрабуецца і дапамога ратавальнікаў.

Экскурсію па аддзяленню хуткай дапамогі праводзіць для нас старэйшая фельчарка Таццяна Барсукова. Яна працуе на «хуткай» ужо 29 гадоў. «Цяпер я не працую на выездзе. А раней едзеш — і не ведаеш часам, што там цябе чакае: цяжкія траўмы, прыпыненне дыхання, ацёк лёгкіх, наркаманы ці алкаголікі. Рыхтуешся па апісаных сімптомах да аднаго, а там зусім іншае. Вось пенсіянерка скардзілася на высокі ціск, сардэчны боль, прыехалі — а ў яе ацёк лёгкіх, булькаючае дыханне, мокрая ўся. Аварыі часам страшныя, калі людзей па кавалках збіраюць. Цяжка, калі дзеткі пакутуюць, але на працы — ніякіх эмоцый, прыехаў — працуеш, дапамагаеш таму, каму цяжэй. Ні пра што іншае ў такі час не думаеш. Здараецца, што пры аварыі дапамога перадусім патрэбная «лёгкаму», які маўчыць, ціха стогне і ні на што не скардзіцца, маўляў, нічога не баліць. Ён можа знаходзіцца ў стане шоку, а таму быць «цяжэйшым» за таго, хто крычыць і скардзіцца. Эмоцыі, разважанні, шкадаванне людзей — гэта ўжо калі прыходзіш з працы дадому», — тлумачыць старэйшы фельчар.

**Ёсць сталыя кліенты, якія могуць выклікаць хуткую па шэсць разоў на дзень**

### Нон-стоп на тэлефоне

У аддзяленні знаёмімся з дыспетчаркай Галінай Валодчанкай. На гэтым месцы яна працуе васямнаццаты год. Дзяжурства — 12 гадзін, з 9-й раніцы да 9-й вечара, ці наадварот. За папярэднюю ноч на «хуткай» было сем выклікаў: ныркавыя колікі, роды, высокі ціск у пенсіянераў, тэмпература ў дзяцей. Высокі ціск, бадай, самая частая прычына набору «103» на тэлефоне. У 5:23 — выклік на роды. Жанчыну павезлі ў Гомель, бо мясцовае радзільнае аддзяленне на рамонце. «Праца экстрэмальная, але цікавая», — кажа Галіна Пятроўна. Яна звяртае ўвагу, што ўсе званкі ў «хуткую» запісваюцца. «Бывае, людзі накрычаць, аблаюць, а потым на цябе ж скаргу напішуць, вось такія запісы дапамагаюць, дысцыплінуюць як хворых, так і нас», — смяецца Галіна Пятроўна.


Кіроўца Міхаіл Гайдукоў (стаж — 33 гады) і фельчар Анжаліка Кузьмянкова (стаж —20 гадоў)

А тыя, хто звяртаецца па тэлефоне спецыяльнай службы «103», натуральна, розныя людзі. Некатарым сапраўды трэба неадкладная дапамога, а іншым — проста сумна ці зрабілася блага ад штодзённых п'янак, ці проста хочацца прыцягнуць да сябе ўвагу.

«Напрыклад, нядаўна тэлефануе жанчына, маўляў, у мяне ціск. Я пытаюся, які менавіта ціск. А яна: вось прыедзеце і ўбачыце! Удакладняю: ці прымалі нейкія лекі? А яна: чаго я вам буду справаздачу даваць! Часам п'яныя тэлефануюць. Тады просім перадаць трубку некаму побач, хто ў адэкватным стане. А ёсць і сталыя кліенты, якія могуць выклікаць хуткую па шэсць разоў на дзень, калі нешта недзе кальнула. А некаторыя тэлефануюць паскардзіцца на сямейныя праблемы. Маўляў, муж п'яны, я нярвуюся, што рабіць?» —распавядае дыспетчарка.

Нашу размову перапыняе званок. «Што ў вашага мужа баліць?» — «Сэрца, ціск высокі». — «А ён якія-небудзь лекі прымае?» — «Так, доктар выпісваў, але ён адмаўляецца прымаць. Што рабіць?» —заклапочана пытаецца жанчына на тым канцы.

Зноў званок. Жанчына просіць парады, што выпіць ад высокага ціску. Дыспетчар выпытвае: што выпісваў доктар, ці пакутуе жанчына яшчэ на нейкія сур'ёзныя захворванні, ці ёсць алергія?

Чарговы званок — з вясковага ФАПа. Высокі ціск у бабулькі, дыспетчар кансультуе работніцу ФАПа: якія лекі даць, як пакласці бабулю, калі зноў праверыць ціск.

Часам, па словах Галіны Валодчанкі, «103» набіраюць дзеці, каб ратаваць сваіх бацькоў. Так дзяўчынка патэлефанавала, што маці страціла прытомнасць, а ў яе цукровы дыябет. Неяк 10-гадовы хлопчык паведаміў, што ў бацькі эпілептычны прыпадак — чалавеку ўдалося дапамагчы ў час.

Зноў званок з вясковага ФАП. У наведніцы баліць галава. «А яна стукнулася недзе, траўма ў яе? Ціск які? На што яшчэ скаргі? Патрабуе, каб «хуткая» прыехала?» — удакладняе дыспетчарка.

Новы год на «хуткай» праводзілі і сустракалі напружана. Першы выклік у 00:25 — высокі ціск. Праз 25 хвілін пералом нагі. Яшчэ праз 10 хвілін — зноў пераломам у адной з вёсак. Праз гадзіну выклік са скаргамі на высокі ціск. І ўжо 1 студзеня раніцай — самагубства. Чалавек памёр да прыезду брыгады. Так для кагосьці Новы год наступіў —і тут жа стаў апошнім.

Гаворым пра сезонныя выклікі. Галалёд — і як вынік пераломы і вывіхі, ДТЗ. Працяглыя выходныя — і тады пацярпелыя ад ужывання алкаголю без меры.

### Хворыя і разявакі

Да нашай гутаркі падключаецца кіроўца «хуткай» Міхаіл Гайдукоў. Стаж працы на «хуткай» — 33 гады. «Бывае, што праз 2—3 дні пасля Вялікадня ідуць выклікі на боль у жываце, абвастрэнне захворванняў страўніка, кішэчніка. Некаторыя людзі трымаюць строгі пост перад Вялікаднем, але затое і гуляюць потым без меры, як апошні раз», — узгадвае кіроўца.

Мікалай не заўсёды сядзіць за стырном — і роды дапамагаў прымаць сярод дарогі, і пакалечаных параненых насіць.

«Адзін сіганулў з балкона — ногі зламаў, затым неяк у пад'езд запоўз. Прыехалі: натоўп разявак, здымаюць на мабільныя тэлефоны. Удвух з фельчаркай пагрузіць яго на насілкі нерэальна — просім у людзей дапамогі. А адзін такі пісьменны кажа: а чаго мы будзем дапамагаць — гэта ваша праца, вашы абавязкі. Ці хворы на дарозе ляжыць — страціў прытомнасць, ці п'яны, ці пераломам у галалёд, дык дапамагчы няма каму. Часам, калі аказваем дапамогу на вуліцы, нас на мабільныя здымаюць разявакі. Ім цікава, ці слушна мы ўсё робім», — заўважае Міхаіл Іванавіч.

Пра часам смешныя, а часам ледзь не трагічныя выпадкі ўзгадвае фельчарка Анжаліка Кузьменка. «Выязджалі на выклік «тэрмінова дапамажыце, вельмі жывот баліць, страшна!» Прыехалі, а таго чалавека і дома няма, недзе збег ужо. Ці прыехалі — а той «паміраючы» спіць ужо, як бы нічога і не было. Да некаторых хворых перад нашым візітам «чорцікі» наведваюцца. Вось так прыехалі, а ён размаўляе з «чортам», які «сядзіць» у яго на канапе. І на нас пачаў сварыцца: «Ды не шамаціце паперамі! Вы ж майго чорціка спалохаеце!» У моладзі часам псіхіка — ніякая. Жывуць у віртуальным свеце, губляюць сувязь з рэальным. Вены рэжуць, хоць часам гэта і робяць публічна, паказушна — так жа цікавей», — кажа Анжаліка Мікалаеўна.

На яе калегу адзін хворы (інвалід у вазку) неяк з патэльняй кінуўся. Прыехалі на выклік, нешта хвораму не спадабалася — вось, нічога не кажучы, і шпурнуў чыгунную патэльню ў галаву жанчыне. Ледзь паспела адскочыць.

Ёсць людзі, якія жывуць самотна (не лічачы бутэлек). Яны так часам забаўляюцца — выклікаюць службы «101», «102», «103» —там ўсе спецыяльныя службы могуць і сустрэцца, ля дома такога «самотнага забаўніка».

### Грошы і пакліканне

Гаворым з калектывам пра заробкі, узгадваем пра пратэсты іх сталічных калег. Работнікі раённай «хуткай» пра гэта нават не чулі. Фельчары кажуць, што «хуткая» — іх прызванне, інакш бы яны даўно адсюль збеглі, а не працавалі па дваццаць гадоў. За гэтыя гады, сцвярджаюць медыцынскія работнікі, яны сталі адной сям'ёй, ведаюць і большасць хворых.

«Праца наша цяжкая, складаная, бо з людзьмі працаваць заўсёды нялёгка, а тым больш з хворымі. Але і цікавая. Ды і куды нам падзецца? Мы толькі гэта і ўмеем рабіць — дапамагаць людзям», — упэўнены добрушскія работнікі.

«А колькі мінскія на «хуткай» атрымліваюць? Афіцыйна каля сямі мільёнаў? А неафіцыйна — нашмат менш? Ну, у Мінску і жыць даражэй. Канечне, мы б ад павелічэння заробку не адмовіліся. Грошай ніколі не бывае шмат», — разважаюць фельчары і задумваюцца: каля пяці мільёнаў (са стажам у 20 гадоў) для райцэнтра — гэта нармальна ці не?

Тым часам паступіў выклік — бабулька вывіхнула руку. Размовы скончаныя. Аўтамабіль «Фіят» заведзены, фельчар грузіць чамаданы з неабходнымі лекамі і інструментамі.

**Юлія Шымкевіч, фота аўтара**


Дыспетчар хуткай Галіна Валодчанка (стаж — 18 гадоў на «хуткай»)

# Як карыстацца новай сістэмай аплаты праезду?

У Мінску ўводзяцца **электронныя праязныя** замест папяровых.

З 1 лютага мінчукі будуць ездзіць на трамваях па-новаму. Менавіта з гэтага віда транспарту «Мінсктранс» пачаў укараненне аўтаматычнай сістэмы кантролю аплаты праезду (АСКАП).

З чым сутыкнуцца пасажыры? Па-першае, знікнуць прывычныя кампосцеры. Замест іх з'явіцца электронныя кампосцеры для папяровых талонаў на адну паездку: замест фігуры з дзірачак яны друкуюць на талоне дату і час гашэння, а таксама нумар маршруту і тып транспартнага сродку.

Абапал дзвярэй грамадскага транспарту паставяць жоўтыя скрыні валідатараў — прылад для актывацыі праязных. Праязныя цяпер — гэта карткі накшталт тых, што выкарыстоўваюцца ў метро.

Па сутнасці, «Мінсктранс» проста замяніў фізічнае кампасціраванне на аўтаматычнае, а праязныя змянілі носьбіт: замест паперы — картка з мікрачыпам.

Праязныя білеты па-ранейшаму будуць афармленыя па-беларуску. Карткі з надпісамі на расійскай мове былі тэставымі варыянтамі ад распрацоўшчыка. Аднак на адрас «Мінсктранса» прыйшло мноства скаргаў, і карткі афармілі па-беларуску.

### Што з'явіцца 1 мая?

1. Безлімітныя праязныя тэрмінам дзеяння ад 1 да 30 дзён, дзейсныя з моманту актывацыі.

2. Праязныя на 5, 10, 30, 40, 50 і 60 паездак. Чым большы намінал карткі, тым таннейшая ў выніку паездка. Але зніжка невялікая. Цяпер такія праязныя ёсць у метро.

3. На электронны праязны можна заносіць да шасці тарыфаў у розных камбінацыях. Напрыклад, можна будзе «забіць» у картку 30 дзён безлімітных паездак на метро, 25 на трамваі, 15 на аўтобусе і 3 на тралейбусе. Сапраўдная прастора для фантазіі!

### Што не зроблена?

1. Пасажыр не можа купіць у кіёску безлімітны праязны на месяц і выкарыстоўваць яго ва ўсіх відах грамадскага транспарту. Менавіта гэта называюць «адзіным праязным» у еўрапейскіх гарадах. У Мінску ж для паездак на метро ўсё адно давядзецца мець асобную картку.

2. Увядзенне аплаты паездкі па кіламетражы адкладзенае на пазнейшы час. Калі сістэму ўсё ж увядуць, грошы будуць спісвацца ў залежнасці ад адлегласці, якую праехаў пасажыр.

### Пытанні-адказы

**П: Як карыстацца электронным кампосцерам для папяровых талонаў?**

**А:** Уставіць талон у шчыліну кампосцера. На кампосцеры загарыцца чырвоны індыкатар, ён прагудзе. Дастаць з кампосцера талон з надрукаваным часам і датай паездкі.

**П: Ці трэба прыкладаць картку безлімітнага праязнога да валідатара падчас кожнай паездкі?**

**А:** Так, гэта патрабаванне «Мінсктранса» для збору статыстыкі па пасажырапатоку. Вас аштрафуюць, калі вы будзеце яго ігнараваць.



Пасажыр, не знаёмы з новымі прыладамі, прыкладае талон да валідатара для праязных.



Уставіць талон у валідатар...



... і атрымаць надрукаваную пазнаку пра час.

**П: Як актывуюцца безлімітныя праязныя на некалькі відаў транспарту, якія дзейнічаюць з моманту актывацыі?**

**А:** Напрыклад, калі вы аплацілі 30 дзён безлімітных паездак на метро і 15 дзён на тралейбусе, праязны на метро актывуецца падчас першага праходу праз турнікет, а праязны на тралейбус — падчас першай паездкі на тралейбусе.

**П: Баланс картак на абмежаваную колькасць паездак можна праверыць, паўторна прыклаўшы картку да валідатара. Ці не спішацца пры гэтым яшчэ адна паездка?**

**А:** Смела прыкладайце картку хоць тройчы! Спісанне сродкаў адбудзецца толькі пры першым прыкладанні. Аплата дзейнічае да канца маршруту, пакуль кіроўца не перазагрузіць сістэму.

**П: Ці змогуць двое аплаціць праезд адной карткай?**

**А:** Не. Права аплаты мае толькі ўладальнік карткі.

**П: Ці зменіцца нешта ў працы рэвізораў?**

**А:** Яны будуць блакаваць валідатары і кампосцеры пры праверцы. Астатняе застанецца па-ранейшаму. «Зайцы», заўважыўшы кандуктараў, змогуць выйсці. Забароны выходзіць да завяршэння праверкі білетаў (як, напрыклад, у Вільні) не будзе.

**П: Калі я карыстаюся праязнымі на ўсе віды транспарту, ці трэба з 1 лютага насіць з сабой картку на метро, папяровы праязны на аўтобус і тралейбус і картку на трамвай?**

**А:** Неабавязкова. Набывайце праязны на чатыры віды транспарту, як і раней. Папяровыя праязныя будуць прадаваць да мая.

**Кірыла Хілько, фота аўтара**

# Папрацаваць у Егіпце?

Кім **беларусы робяць** у афрыканскай краіне?

Калі Настассі Шыгалёвай прапанавалі працу ў Егіпце, яна не адмовілася. Выпускніца ін'яза, перакладчыца з англійскай і іспанскай мовай, працавала па спецыяльнасці і някепска зарабляла, але вырашыла атрымаць досвед працы за мяжой. Хай нават у Афрыцы.

Некалькі месяцаў таму Настасся вярнулася ў Беларусь.

**НШ:** Я працавала сакратаркай-перакладчыцай ва ўласніка забаўляльнага цэнтра і сеткі гатэляў Savoy Group у Шарм-эль-Шэйху. Перакладала розныя рэкламныя тэксты, буклеты кампаніі. Плюс тэлефанаванні, дакументы, справаздачы...

**«НН»: Як уладкаваліся ў Егіпет?**

**АШ:** У інтэрнэце размясціла рэзюмэ, і са мной звязаўся прадстаўнік кампаніі. Амаль восем месяцаў адпрацавала там.

**«НН»: Не спадабалася там?**

**АШ:** Праца спадабалася, але жыць там — не. Шарм-эль-Шэйх — гэта турыстычны горад, куды добра прыязджаць на адпачынак. А жыць нязручна, бо ўсё прадаецца для турыстаў: пляжнае адзенне, сувеніры. За сценамі гатэляў няма чым заняцца. Ёсць некалькі клубаў, але іх можна абысці за месяц. Хаця многія там жывуць, будуюць кар'еру.

**«НН»: Англійскай мовы дастаткова, каб працаваць у Егіпце?**

**АШ:** Патрабуецца англійская і расійская, бо шмат рускамоўных турыстаў.

**«НН»: Колькі плацілі?**

**АШ:** Дастаткова. Палову заробку атрымлівалася адкласці, бо давалі і жытло, і харчаванне. Мне хапала максімум $300 на месяц.

**«НН»: Пасля рэвалюцыі ў Егіпце неспакойна. На курорце адчувалася гэта?**

**АШ:** Не. Толькі адзін дзень была камендацкая гадзіна — 30 чэрвеня [дзень масавых пратэстаў, у выніку якіх зрынулі прэзідэнта Мухамеда Мурсі — **НН**]. У нас тэрыторыя ахоўвалася, паколькі Savoy Group — адна з найбуйнейшых кампаній у Шарм-эль-Шэйху. Былі перабоі з палівам, пра што расказвалі таксісты. І на некалькі дзён з крамаў зніклі пэўныя тавары.

**«НН»: Колькасць турыстаў пасля рэвалюцыі ў Егіпце зменшылася?**

**АШ:** Да сярэдзіны кастрычніка турыстаў мала было. Але некаторыя гатэлі зрабілі выгадныя прапановы — даляр за дзень. А з сярэдзіны кастрычніка, калі ў Турцыі стала холадна, а на іншых курортах — дорага, турысты пачалі вяртацца.

**«НН»: Як шмат там працуе беларусаў?**

**АШ:** Дастаткова! У нашай кампаніі найбольш было не расейцаў ці ўкраінцаў, а беларусаў — чалавек дзевяць. Хтосьці ў маркетынгу заняты, нехта на менеджарскіх пазіцыях, іншыя ў службе «гест рэлэйшн» — камунікацыя з гасцямі.

**«НН»: Вы думалі зноў паехаць?**

**АШ:** Не. Туды добра ехаць у двух выпадках: калі ёсць перспектывы ў асабістым жыцці альбо ў плане кар'еры.



**«НН»: Чаго можна ў кар'еры дабіцца?**

**АШ:** Аж но да кіраўніка гатэлем, асабліва калі заканчваць курсы. І я ведаю дзяўчат, у якіх кар'ера добра рухаецца. Але для сябе такіх перспектыў там не бачыла.

**«НН»: Еўрапейкі часта выходзяць замуж за егіпцян?**

**АШ:** Даволі часта. Многія егіпцяне мэтанакіравана шукаюць сабе жонак сярод еўрапеек, славянак. Ведаю шмат нашых дзяўчат, якія жывуць замужам і ў Каіры, і ў Александрыі.

**Сяргей Макарэвіч**

**Шарм-эль-Шэйх** — горад-курорт на поўдні Сінайскага паўвострава на ўзбярэжжы Чырвонага мора ў Егіпце. За 500 км ад Каіра. З Мінска ў Шарм-эль-Шэйх лётаюць чартарныя рэйсы. Адпачынак на курорце абыдзецца ў студзені ў гатэлі 3* на 10 начэй ад $1170 на дваіх па сістэме «ўсё ўключана». Гатэль 4* — ад $1404, пяць зорак — $1700.

# Топ-5 самых дарагіх катэджаў краіны

Цана на элітнае жыллё ў Мінску няўхільна расце. Два гады таму катэджы каштавалі не больш за $2 мільёны. Цяпер жа **максімальная цана сягае $2,6 мільёна**. Па традыцыі нагадаем, што беларусу з сярэднім заробкам, які сумленна сплачвае падаткі, на такі дом давядзецца працаваць больш за 430 гадоў. Але зразумела, што гэта жыллё не для звычайных беларусаў.





$2,6 мільёна

## 1. Суцэльная пазалота

За максімальную цану гаспадары прадаюць шыкоўна абстаўлены катэдж у Калодзішчах (**на фота справа і злева**), гэта каля 10 км ад Мінска. Чатырохузроўневы цагляны дом агульнай плошчай 1200 м² быў пабудаваны 15 гадоў таму. Рамонт у ім свежы, але ад колькасці залацістых колераў у інтэр'еры аж мітусіцца ў вачах. Пяць спальняў, пяць санвузлоў, лазня, басейн і два гаражы — прапанова можа захапіць заезжага багацея, але беларускія мільянеры ўжо маюць сваё жыллё, зробленае на свой густ.

## 2. Непрадаваныя голыя сцены

Дом на вуліцы Пастаўскай летась быў самым дарагім катэджам краіны, выстаўленым на продаж. Усё тыя ж голыя сценкі (хата без рамонту) і ўсё тыя ж $2,2 мільёна за 767 м²... Купцоў дагэтуль няма, але цана не зніжаецца ні на даляр.

Сярод пераваг — першая берагавая лінія Цянскага вадасховішча і лес непадалёк. Але перспектыва доўгага рамонту ўсё адно адштурхоўвае.



$2,2 мільёна

**Стабільнасць прапановы і цаны**

Некаторыя катэджы прадаюцца ўжо трэці год. Напрыклад, за двухпавярховік на Вайсковым завулку (каля плошчы Перамогі) па-ранейшаму просяць каля $2 мільёнаў, і ўсё марна.



$2,1 мільёна

## 4. Рэзідэнцыя ў Раўбічах

Раўбічы, 15 км ад Мінска — а цана ўсё адно не падае ніжэй за два мільёны даляраў. Катэдж у «спартыўнай» вёсцы мае агульную плошчу 595 м². Выдатная загарадная рэзідэнцыя — 4 спальні, 3 санвузлы, гараж, більярдная і, вядома ж, басейн. А для дзяцей — парк з вялікімі дрэвамі.

## 3. Былая амбасада

Любімыя кліенты прадаўцоў элітнай нерухомасці — дыпламаты, найлепш — азіяцкія. Яны гатовыя плаціць любыя грошы, прычым заўсёды ў тэрмін. Знайсці такіх выгадных арандатараў складана.

Вось ужо некалькі месяцаў на продаж выстаўлены катэдж у Сельгаспасёлку, каля вуліцы Багдановіча, які займала індыйская амбасада. Дом агульнай плошчай 787 м² мае шэраг адметнасцяў. Па-першае, гэта ліфт, які рухаецца паміж усімі чатырма ўзроўнямі. Па-другое, гэта наладжаная сістэма бяспекі, якая засталася пасля дыпламатаў.

Цікава, што адзін з суседніх дамоў таксама прадаецца і таксама задарага — $2 мільёны.




$2,1 мільёна



$1,98 мільёна

## 5. Зніжка $150 тысяч

Гэты катэдж на вуліцы Крупецкай прадаўцы ўжо гатовыя аддаць танней за пачатковую цану, якая складала $2,15 мільёна. Вокны дома выходзяць на задні двор гандлёвага цэнтра «Арэна-Сіці», але месца ўсё адно лічыцца прэстыжным — Дразды ёсць Дразды. Агульная плошча дома складае ўсяго 284 м², для элітнага катэджа гэта нішто. Прадаўцы кампенсуюць дызайнерскім рамонтам у цёмных танах і вулічным басейнам з падагрэвам.

Ягор Марціновіч

## Сцісла

**Зарабілі $372 мільёны на танчыках**

Інтэрнэт-гульня «Свет танкаў» летась прынесла свайму стваральніку, беларусу Віктару Кісламу, і яго кампаніі Wargaming $372 мільёны. Сярод анлайн-гульняў гэта чацвёрты вынік у свеце. У «танчыкі» гуляе амаль 80 мільёнаў чалавек, адначасова — больш за 1,3 мільёна чалавек.

**Не прайшло і 25 гадоў**

У Мінску сёлета будуюцца тыя «чаргавікі», якія запісаліся на паляпшэнне жыллёвых умоваў яшчэ ў 1989 годзе. Па ўсёй Беларусі ў чарзе на льготнае жыллё стаіць каля 750 тысяч чалавек. За год яна скарацілася на 65 тысяч чалавек, перадусім за кошт таго, што некаторыя грамадзяне больш не трапляюць пад крытэрыі дапамогі.

**Новы аўтазавод «Джылі»**

На тэрыторыі СЭЗ «Мінск» да 1 ліпеня 2019 плануюць пабудаваць беларуска-кітайскі завод па вытворчасці легкавікоў «Джылі». Прамысловыя магутнасці дасягнуць 120 тысяч машын у год, 90% прадукцыі хочуць прадаваць на экспарт.

**Давядзецца плаціць за бягучы рамонт**

У жыроўках беларусаў з'явіцца новая графа — «бягучы рамонт». Раней яна ўваходзіла ў тарыф на тэхнічнае абслугоўванне. Паводле новых нормаў, давядзецца асобна плаціць за рамонт дахаў, гаўбцоў, тратуараў, дарожак і пляцовак. Рахунак будзе выстаўляцца па факце, таму сказаць, колькі давядзецца плаціць жыхарам, пакуль немагчыма.

ЯМ

# Аўтобус выехаў ў сквер

Дзве жанчыны з лаўкі саскочылі, а **адна не паспела**.

Трагедыя здарылася апоўдні 16 студзеня ў Гомелі. Аўтобус №17 па маршруце «Медгарадок — мікраараён Клёнкаўскі» рухаўся па вуліцы Савецкай. І раптам яго панесла ўправа — праз тратуар ён выскачыў у сквер імя Грамыкі.

«Я ўсё бачыла на свае вочы, — узгадвае Наталля. — У аўтобусе нешта бухнула, як разумею, кола. Аўтобус выехаў на алею. Дзве жанчыны з лаўкі саскочылі, а адна не паспела. Пайшоў дым, смурод ад гумы... Кіроўца быў у кабіне. Ён ляжаў з заплюшчанымі вачыма і глыбока дыхаў. Калі выцягвалі, у яго паніка была».

Аўтобус спыніўся пасля таго, як урэзаўся ў драўляную скульптуру. Пад яго днішча трапіла 43-гадовая жанчына. Яе не адразу змаглі дастаць, а калі ўсё-ткі выцягнулі, медыкі канстатавалі смерць. 40-гадовага кіроўцу шпіталізавалі з папярэднім дыягназам «эпілептычны статус».

Відавочцамі аварыі сталі і два кіроўцы ліцэя МНС, якія чакалі непадалёку навучэнцаў. Яны кінуліся да аўтобуса. Рухавік працаваў, але ехаць далей аўтобусу перашкаджала драўляная скульптура. Ад буксуючых колаў пачаў задымляцца салон. Ратавальнік праз разбітую шыбу залез у кабіну і заглушыў рухавік. А затым з напарнікам адчынілі пярэднія дзверы і выпусцілі пасажыраў. 59-гадовая жанчына няўдала ступіла і зламала нагу.

«На месцы загінулай магла быць і я. Я зайшла ў банк, таму забавілася. Я баялася нават блізка да гэтага месца падысці, — выказалася на форуме адна гамяльчанка. — Хутка сышла — такое відовішча не для мяне... Да прыпынку аўтобус не даехаў метраў 10—20».

Эксперты яшчэ высветляць, што здарылася з кіроўцам. Ці сапраўды ён пакутаваў на эпілепсію, але тады яму не павінны былі даць правы. Альбо гэта здарылася ўпершыню.

Завялі крымінальную справу. Вадзіцель падазраецца ў парушэнні правілаў дарожнага руху або эксплуатацыі транспартных сродкаў. Справу могуць спыніць, калі будзе ўстаноўлена, што пагаршэнне стану здароўя адбылося знянацку, а прадбачыць гэта медыкі, якія дазволілі яму працаваць не маглі.

**Сяргей Макарэвіч**

**Эпілептычны статус**

гэта стан, пры якім эпілептычныя прыпадкі ідуць адзін за адным, і ў прамежках паміж прыпадкамі хворы не прыходзіць у прытомнасць. Суправаджаецца пенай з рота і сутаргамі.

Эпілептычны статус можа быць выкліканы эпілепсіяй, алкагольным абстынентным сіндромам, інсультам, адсутнасцю кіслароду ў арганізме, інфекцыяй ЦНС, пухлінай у галаўным мозгу, чэрапна-мазгавой траўмай, перадазіроўкай наркотыкамі, вострым парушэннем мазгавога кровазвароту.




NEWSGOMEL.BY

**Смерць за рулём**

У 57-гадовага кіроўцы Renault Megane Scenic здарыўся сардэчны прыступ, калі ён ехаў па Бабруйску. Аўтамабіль выехаў на правую ўзбочыну, дзе ўрэзаўся ў слуп электраперадач. Кіроўца памёр на месцы.

**Вышук**



**На старых руку паднімаў**

21-гадовы жыхар Асіповічаў падазраецца ў серыі крадзяжоў у сталіцы. Ён вырываў з рук бабулек сумачкі і ўцякаў. Вядома пра пяць такіх выпадкаў. Калі нехта пацярпеў ад чалавека на фота, звяртайцеся на: (017) 285-73-79, (029) 119-03-02.



**Прывязу адзенне**

Затрыманая 23-гадовая мінчанка, якая, нібы дапамагаючы ў продажы і дастаўцы адзення, брала ў гараджан грошы, а пасля папросту ігнаравала заказчыкаў. Прадстаўлялася Вольгай Махнавец. Устаноўлена 40 фактаў аферы. Хто валодае інфармацыяй аб дзяўчыне альбо сам пацярпеў ад яе, звяртайцеся ў Кастрычніцкае РУУС Мінска на (017) 226-21-02.

# Аскандаліліся лагойскія вярхі

«Нагрэлі» раённы гатэль **на $120 тысяч.**

Адразу пяць чыноўнікаў Лагойскага райвыканкама абвінавачваюцца Камітэтам дзяржкантролю ў карупцыйных злачынствах пры вырашэнні свайго жыллёвага пытання. Намеснік старшыні райвыканкама па эканоміцы Ліяна Хмуровіч аддала незаконнае распараджэнне аб пераводзе ў жылы фонд нумара люкс ведамаснай гасцініцы «Алімп».

Рэч у тым, што ў наяўнасці ў райвыканкама ёсць жылы фонд, куды часова расселяюцца спецыялісты, якія накіраваны ў Лагойск, але не маюць жылля ў горадзе. Акрамя таго, пры неабходнасці выканкам можа кампенсаваць спецыялістам і аплату за здымнае жыллё. Аднак Хмуровіч, мабыць, не захацела жыць ні ў інтэрнаце, ні ў здымнай кватэры. Вырашыўшы, што яна заслугоўвае ўсіх выгодаў, захацела пасяліцца ў гасцінічным нумары люкс. Праўда, такія апартаменты дорага каштуюць — 450 тысяч рублёў за суткі. За месяц выходзіць каля 13,5 мільёна рублёў. Але вынаходлівая чыноўніца прыдумала выйсце: загадала люкс перавесці ў жылы фонд і надаць яму статус інтэрната. А гэта зусім смешныя сумы аплаты — усяго каля 200 тысяч у месяц.

Сам па сабе нумар люкс у «Алімпе» не ўяўляе сабой нічога асаблівага. Два пакоі, укамплектаваныя мэбляй, ванны пакой, халадзільнік, тэлевізар. Аднак галоўная яго каштоўнасць у іншым: не трэба ні пра што клапаціцца — твой нумар прыбяруць, памяняюць і памыюць бялізну... Калі ўлічыць, што на першым паверсе месціцца і рэстаран, то жыццё наогул паўстае ў радасных колерах.

Калі Хмуровіч сама ўладкавала сваё жыццё, то пачала дапамагаць і іншым чыноўнікам раёна. Аднаму за адным нумарам гасцініцы надаваўся статус інтэрната, і туды засяляліся галоўны заатэхнік, дырэктар камбіната бытавога абслугоўвання і іншыя важныя персоны. КДК налічыў усяго пяць чалавек, якія незаконна пражывалі ў гасцініцы каля паўтара года. А калі ў месяц адзін чыноўнік абыходзіўся ў суму 13,5 мільёна рублёў, то пяцёра за паўтара года — гэта больш за мільярд (каля $120 тысяч) матэрыяльнай шкоды.

Як удалося высветліць, цяпер матэрыялы КДК перададзены ў праваахоўныя органы для дачы дзеяння чыноўнікаў прававой ацэнкі.

**Паводле «Ежедневніка»**




BELHOTEL.BY

## Сцісла

**Складаны працэс «Экамедсэрвісу»**

У судзе Кастрычніцкага раёна Мінска працягваецца справа па смерці дзяўчыны ў медцэнтры «Экамедсэрвіс». Высветлілася, што падчас пластычнай аперацыі ў апараце штучнай вентыляцыі лёгкіх адбыўся збой. А дзірка ў шлангу была заклеена скотчам. І так правялі 41 аперацыю. Пасля аперацыі ўсе дактары пакінулі клініку, нягледзячы на ўскладненні ў пацыенткі. А ў дадатак не вёў паслянаркозны дзённік.

**Забівалі, рабавалі, уганялі**

Дзясяцера случчакоў абвінавачваюцца па 48 эпізодах. Цягам года ў Слуцку і Салігорску яны падбіралі ключы ад аўто альбо выбівалі ў іх шкло, а затым выцягвалі з іх маёмасць. Некаторыя з затрыманых маюць дачыненне да забойства качагара слуцкай бальніцы ў сакавіку 2013-га. Іх таксама абвінавачваюць ва ўгонах, разбоі, хуліганстве. Сярод затрыманых былі і непаўналетнія. Віну ўсе прызнаюць.

**Прапаршчык стрэліў у салдата**

На палігоне Лосвіда ў Віцебскім гарнізоне ў падраздзяленні сіл спецыяльных аперацый прапаршчык ненаўмысна стрэліў з пісталета. У выніку лёгкае раненне нагі атрымаў вайсковец тэрміновай службы.

**Замерз трэцякласнік**

У Светлагорску пад лёд на канале праваліўся школьнік. Хлопчыка дасталі з вады, але ён памёр у бальніцы так і не апрытомнеўшы — ад пераахалоджвання.

**Папсаваў аўто па старой крыўдзе**

23-гадовы хлопец вырашыў адпомсціць свайму знаёмцу з Бярозаўкі ў Лідскім раёне. Калі той пакінуў свой «Форд Экспедышн» з расійскімі нумарамі на ноч у двары, вырашыў дзейнічаць. Пракалоў усе колы, а пасля яшчэ мантажнай пенай замазаў усе дзверы. Хлопца вылічылі, і цяпер ён можа адправіцца за краты на два гады. Рамонт аўто ж абышоўся ў $3 тысячы. Кіроўцу, дарэчы, аштрафавалі за паркоўку на газоне. Ён нарадзіўся ў Бярозаўцы, куды прыехаў на канікулы з Масквы.



TUTGRODNO.COM

**КМ**


Навагрудак.

**Замкі ў 3D**

Замкі Вялікага Княства Літоўскага адноўленыя з дапамогай камп'ютарнай графікі. Унікальную рэканструкцыю на аснове старых гравюраў і археалагічных звестак зрабіла літоўская кампанія Metalo Forma.

Кожная выява стваралася на аснове канкрэтнага гістарычнага факта або канкрэтнай эпохі, апісанай у гістарычных крыніцах. Рэканструктары абапіраліся на старыя гравюры, літаграфіі, археалагічныя звесткі. Набраўшы дастаткова матэрыялу па абранай тэме, стваралі чарцяжы аб'ектаў у трохмернай прасторы. Усе прапорцыі старанна вымяраліся ў метрах і сантыметрах, пераконваюць ствральнікі. На працу над кожным малюнкам сыходзіла ад 1 да 3 месяцаў.



Крэва.

Цяпер ламаюць галаву, чым замяніць драўніннны дым.

# Вэнджаніна пад пагрозай

Змены ў еўрапейскім заканадаўстве прымусілі біць трывогу польскіх мяснікоў: папулярныя вэнджаныя каўбасы, мяса, сала, а таксама рыба і сыры могуць знікнуць з еўрапейскіх прылаўкаў. З 1 верасня 2014 памяншае максімальнае ўтрыманне бенз(а)пірэну з 5 мікраграм на кілаграм прадукта да 2 мкг/кг.

Палякі баяцца, што такія стандарты пакладуць канец традыцыйным вэнджаным стравам. Вэнджанне мяса — старадаўні прыём, частка агульнаеўрапейскай культурнай спадчыны. Кумпяк, кілбасы асабліва папулярныя на ўсходзе Еўропы.

Польская Асацыяцыя вытворцаў мяса ацаніла магчымыя страты ў 8% ад агульнай колькасці вытворцаў, хоць міністр сельскай гаспадаркі Польшчы Станіслаў Калемба даў аптымістычныя прагнозы і сказаў, што большасць гатункаў каўбасаў будуць адпавядаць норме.

Бенз(а)пірэн — гэта поліцыклічны араматычны вуглевадарод, вядомы як моцны канцэраген. Міжнародная арганізацыя па вывучэнні рака дала яму першую катэгорыю канцэрагеннасці, паставіўшы ў адзін шэраг з азбестам і гама-выпраменьваннем. Бензапірэн прыводзіць да пашкоджанняў ДНК, што і можа стаць прычынай анкалагічных захворванняў.

Бенз(а)пірэн з'яўляецца прадуктам няпоўнага згарання вуглевадароднага паліва і таму у вялікай канцэнтрацыі ўтрымліваецца ў дыме. Аднак высокія канцэнтрацыі бенз(а)пірэну ўласцівыя не толькі вэнджаніне, але і смажаным прадуктам увогуле. Рэкардсменамі выявілася мяса, прыгатаванае на вуголлі: турэцкія навукоўцы выявілі, што моцна падсмажаная такім чынам ялавічына можа ўтрымліваць да 62,6±3,72 мкг/кг бенз(а)пірэну.

**Кірыла Хілько**

# «Белгазпрамбанк» папаўняе калекцыю

Банк набыў на аўкцыёне Christie's працы трох мастакоў з беларускімі каранямі. Гэта Леў Бакст, Дзмітрый Стэлецкі і Леў Індэнбаўм, чые працы ўпершыню з'явяцца ў Беларусі.

Ураджэнец Гародні Леў Бакст лічыцца адным з самых дарагіх тэатральных мастакоў у свеце. Ён праславіўся дзякуючы афармленню спектакляў трыумфальных «Рускіх сезонаў» Дзягілева. Разам з кампазітарам Стравінскім Бакст аформіў серыю балетных пастановак, якія прынеслі абодвум сусветную вядомасць. Эскіз гарнітура да аднаго з іх — «Жар-птушка» — зараз у калекцыі «Белгазпрамбанка».

Берасцеец Стэлецкі з 1914-га жыў у Парыжы, дзе распісваў праваслаўныя храмы, афармляў спектаклі па матывах рускага фальклору. Банк набыў яго карціну «Ноч святога Яна».

Скульптар Леў Індэнбаўм нарадзіўся на Магілёўшчыне, жыў і вучыўся ў Вільні, а ў 1911 годзе пераехаў у Парыж. Сярод яго сяброў былі Суцін, Дыега Рывера, а Мадзільяні пісаў яго партрэт.


**Эскіз да балета «Жар-птушка».**


**Камертон Сяргея Ваганава**

# Капліца на крыніцах

*«Капліца — ... невялікае збудаванне... ў выглядзе помніка, ці на росстанях, на крыніцах...»*
***Уладзімір Даль***

Ужо і не памятаю, на каторым дзяржаўным тэлеканале натрапіў на чарговае кіно пра Цітовічаў. Глядзеў з сярэдзіны, без асаблівай цікаўнасці, бо такое аднолькавае, прыпудранае дазволеным зместам, кіно было не адно. Сёлета, мусіць, здымуць нешта яшчэ. Набліжаецца стагоддзе Першай сусветнай вайны, і можна прадбачыць, што без ухвалення Цітовічаў усплёск дзяржаўнага патрыятызму не абыдзецца. Між тым іх жыццё, яго цяжкі крыж і ўзнёслы сэнс да такога патрыятызму не маюць аніякага дачынення...

Больш за палову гэтага жыцця прайшло ў невялічкай, менш за два дзясяткі двароў, вёсцы Забродздзе на Вілейшчыне. Тут Барыс, малады па тым часе мастак, пасяліўся разам з жонкай Валянцінай, тэатральным рэжысёрам па адукацыі і прызванні, а яшчэ працаўніцай і верным сябрам па таленце сваёй чалавечай існасці. У Забродздзі ж нарадзіўся сын Даніла, ужо таксама мастак, скульптар, майстра па любым механізме, дрэве і жалезе, але найперш, безумоўна, сын...

Грамадская цікавасць да жыцця Цітовічаў, што выяўлялася ў газетных публікацыях і дакументальных фільмах, накатвала хвалямі, але без асаблівай практычнай карысці для іх спраў. Спачатку яна выклікалася экзатычнасцю факта: гараджане па паходжанні і выхаванні, яны самі, без дзяржаўнага прымусу, з'ехалі ў вёску, што, з аднаго боку, выклікала падазронасць і абгаворы, а з другога — лічылася подзвігам і працягам народніцкіх традыцый.

Насамрэч, яны шукалі сябе ва *няўдзеле ў хлусні* – так сфармуляваў крэда сумленнага савецкага чалавека, магчымасць заставацца сумленным Салжаніцын. Як у рэшце рэшт імперыя выкарыстала пісьменніка, прыстасавала да сваіх патрэбаў, добра вядома.

У мяне няма права сцвярджаць, што Цітовічы ўсвядомлена шукалі сэнс Богам дадзенага ім жыцця менавіта паводле Салжаніцына. Але як мала хто на пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя, яны не збаяліся бездані той праўды, што адкрылася іх пакаленню, не спужаліся яе касмічнай вышыні. І вельмі хутка, калі не адразу, *няўдзел у хлусні* стаўся для іх немагчымым без *удзелу ў праўдзе*.

## Цітовічы самі, без дзяржаўнага прымусу, з'ехалі з горада ў вёску

Свой удзел у праўдзе яны знайшлі ў вясковых дзецях, старых, зямлі, гісторыі і мастацтве.

Стварыўшы выяўленчую студыю і вандроўны лялечны тэатр «Ялінка», Цітовічы спасцігалі праўду разам з дзецьмі.

Пасадзіўшы на беразе Нарачанкі гай, дзе кожны дубок, кожная бярозка — імя і памяць пра ветэрана сусветных ды іншых войнаў, яны вучыліся праўдзе ў Гісторыі. Растуць у гэтым гаі і дрэвы, што пасадзілі Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч, — у іх яны таксама вучыліся праўдзе.

Узваліўшы на сябе ўвесь клопат аб забродскіх старых, яны спасцігалі кроўную сувязь з іх зямлёй, прыпалі да яе, а потым і яна пранікла ў іх душу, таксама стала іх праўдай. І калі ў блізкім лесе яны знайшлі ўсё тое, што засталося ад колішніх шпітальных могілак, дзе хавалі загінулых і памерлых ад ранаў жаўнераў Першай сусветнай, яны аднавілі магілы, вырвалі з забыцця імёны, склалі з камянёў помнік, усталявалі крыжы...

Крыжы на былых могілках, дзе калісьці хаваўся нейкі ракетны дывізіён...

Было тое на мяжы савецкіх часоў з наймоўшымі. А сёння галоўны іх і, здаецца, пажыццёвы клопат — завяршыць стварэнне музея Першай сусветнай вайны. Глабальны праект, што ахоплівае тэрыторыю ад Вілейкі да Смаргоні і Нарачы. Так званы «тэатр вайсковых дзеянняў»...

Вось пытанне: як скарыстаецца гэтай саматужнай, часам сізіфавай, працай улада? Як скарыстаецца праваслаўная царква, якая блаславіла пачынанне, але нічым, па сутнасці, не дапамагла? Калі не лічыць прэміі «За духоўнае адраджэнне», каторая царкве і вярнулася, — уся яна пайшла на будаўніцтва капліцы.

Дык скарыстаюцца? Несумненна. І там, дзе зраўняў з зямлёй шпітальныя могілкі згаданы ракетны дывізіён; і там, дзе бульдозер уціскаў у асфальт косткі ахвяр той вайны, а сёння Цітовіч паставіў помнік; і там... Там адбудзецца крывадушнае спалучэнне малітвы аб ратаванні душ тых ахвяр са «славой русского оружия» і «непарушным славянскім адзінствам»...

Між тым ва ўсім, што зрабілі і робяць Цітовічы, аніякай «славы», аніякай афіцыёзнай героікі, аніякага імперскага патрыятызму няма. А ёсць толькі цяжар памяці, смутку і праўды...

Цяжар, у тым ліку, літаральны, у выглядзе бярвення, якое Цітовіч узносіў на будоўлю капліцы і званіцы побач з гаем на беразе Нарачанкі.

Капліцы і званіцы, у бярвёны якіх увайшоў не толькі боль душы, але і боль спіны, надарванай яшчэ на ўзвядзенні ветранога млына ў знакамітых «Дудутках»...

Капліцы і званіцы, ад якіх струменіцца ў Нарачанку празрыстая крынічка з жаўнерскай конаўкай на ланцужку.

*kamerton_41@mail.ru*

# Хлеб у доме гаспадар

Гутарка з **Кастусём Ларковым**, пекарам незвычайных караваяў.

Кастусь Ларкоў — беларускамоўны пекар, сапраўдны знаўца хлебных справаў. Ён займаецца вырабам хлеба і ўпрыгожваннем караваяў, кожны з якіх з'яўляецца непаўторным мастацкім творам. Мы сустрэліся з майстрам, пагутарылі пра хлеб як каштоўны сімвал беларусаў і даведаліся пра тое, ці можна спячы яго ў хатніх умовах.




**«Наша Ніва»: Кастусь, з чаго пачалася зацікаўленасць хлебнымі вырабамі ды іх упрыгожваннем?**

**Кастусь Ларкоў:** Непасрэдна з працы на хлебазаводзе. Калі спачатку цікавіла нейкая адна тэхналогія, скажам, як на батоне з'яўляюцца шнары, то потым захацелася больш паглыблена вывучыць гэтую сферу. Усяму я вучыўся самастойна. Цікавіўся, якія адмысловыя ўпрыгожанні павінны быць. Кожнае з іх мае сваю сімволіку.

**«НН»: Якія найбольш распаўсюджаныя ўпрыгожанні выкарыстоўвалі нашыя продкі?**

**КЛ:** Калі казаць на прыкладзе вясельных караваяў, то перадусім птушкі — доля маладых, кветкі — пажаданне шчасця і жыцця прыгожага, вінаградная лаза — сімвал доўгага кахання.

**«НН»: Пекар — гэта стан душы?**

**КЛ:** Безумоўна. Галоўнае, каб быў спакойны характар. Калі чалавек неўраўнаважаны, то і хлеб у яго будзе атрымлівацца кепскі. Вельмі істотна любіць людзей і сваю працу. Калі ты робіш нешта на замову, настрой заўсёды перадаецца вырабу і людзям. Таму на табе вялікая адказнасць.

**«НН»: Праз што ляжыць шлях да хлеба?**

**КЛ:** Праз разуменне асаблівасці прадукту. Пасля з'яўляецца жаданне ўпрыгожваць хлеб, каб ён цешыў вока. Трэба ж не проста сустрэць боханам хлеба, а каб было бачна, які падыход да гасцей. Хлеб — сімвал гасціннасці. Каравай — увасабленне долі маладых. Сімвал шчасця на ім — дзве птушкі на версе каравая, якія маглі есці толькі маладыя.

**«НН»: Упрыгожванне хлебных вырабаў можна назваць мастацтвам?**

**КС:** Шмат пра гэта чую, магчыма, так і ёсць, а для мяне гэта праца, якая вочы цешыць.

**«НН»: Што было самым складаным падчас асвойвання гэтай справы?**

**КЛ:** Удасканаленне прыходзіць з часам, нельга спяшацца. І памылкі былі, яны і цяпер здараюцца, то колер вырабу не той, то на выпечцы нешта не так адбілася... Але звычайна пра такія хібы ведаю толькі я.

**«НН»: Колькі па часе займае выраб хлеба?**

**КЛ:** Ад замесу цеста да выхаду з печы — 5-6 гадзін.

**«НН»: А ці магчыма спячы добры хлеб у хатніх умовах?**

**КЛ:** Умовы, вядома ж, не тыя, але я паспрабаваў у хатняй жароўні, і атрымалася няблага. Таму і дома пры жаданні можна пячы хлеб.

**«НН»: Што самае галоўнае пры працы з хлебам?**

**КС:** Стаўленне да цеста павінна быць добрым. Бо яно адчувае, і нават лепш за чалавека. Нельга рабіць каравай з кепскім настроем. У яго часам гарэлку дадавалі, каб жыццё больш вясёлым было. Ваду прыносілі з некалькіх крыніц, каб жыццё было без складанасцей.

**«НН»: Як робіцца хлеб, які ў яго склад?**

**КС:** Склад хлеба вельмі просты: мука, вада, соль. Дастаткова толькі гэтых прадуктаў, каб мець магчымасць замясіць цеста для хлеба. Але вядома, калі мы наўпрост змяшаем гэтыя прадукты, то наўрад ці атрымаем звыклы для нас хлеб. Ёсць адзін хітрык — гэта закваска. Менавіта дзякуючы ёй у хлебе назапашваецца той незвычайны смак, які ніколі нікому не надакучае. Акрамя гэтага, закваска дазваляе атрымаць не ліпкі мякіш. Закваску ніколі не выкарыстоўваюць цалкам, а заўсёды пакідаюць нязначную частку, каб, дадаўшы да яе мукі ды вады, зноў падрыхтаваць да замесу ў наступны раз. Гэты спосаб выкарыстоўвалі нашыя продкі, і па такім жа прынцыпе гатуецца хлеб і цяпер на больш-менш буйных прадпрыемствах. У заквасцы, а пасля ў цесце назапашваюцца араматычныя злучэнні, арганічныя кіслоты, мінеральныя прадукты закісання, якія робяць хлеб і смачным, і больш карысным. Каб хлеб атрымаўся духмяным, этапы закісання і браджэння цеста павінны займаць ад дзвюх з палавай да чатырох гадзін, а часам і болей.

**«НН»: Ці былі ў нашых продкаў нейкія традыцыі ці рытуалы падчас вырабу хлеба?**

**КС:** Раней пры выпяканні нельга было сварыцца, вастрыць нажы. Непажадана было, каб нехта прыходзіў у гэты час. Выняўшы хлеб з печы, яго нельга было класці на абрус, які ляжыць благім бокам уверх... Па хлебе нават далейшы лёс высвятлялі.

**«НН»: Вашая тонкая праца, у нечым вытанчаная, больш пасуе жанчынам, чым мужчынам?**

**КС:** Дык раней хлеб на вёсках і пяклі толькі жанчыны. Нялёгкая гэта справа насамрэч. Усё ж рабілася рукамі. Цяпер машына робіць усё за чалавека, акрамя ўпрыгожванняў. Іх амаль заўсёды раблю ўручную.

**«НН»: Як родныя ды сябры да вашага занятку ставяцца?**

**КЛ:** Бацькі двума рукамі за былі. Матуля, хоць яна і на пенсіі, таксама на нашым заводзе, працуем у адной змене разам. Стала падначаленай сына!

**«НН»: Вы не проста пекар, а пекар з беларускім каларытам. Як да вас ставяцца на працы?**

**КЛ:** Вітаюцца і развітваюцца са мной заўсёды па-беларуску. У нашай змене людзі імкнуцца зрабіць мне прыемна і размаўляць са мной па-беларуску.

**«НН»: А былі негатыўныя моманты?**

**КЛ:** Аднойчы мяне папрасілі не пісаць на вырабах апазіцыйных прымавак. (*Смяецца.*)

**«НН»: Гэта якіх?**

**КЛ:** У 2010-м была нейкая выстава, і мяне папрасілі зрабіць для яе некалькі боханаў з надпісамі. Сярод іх была распаўсюджаная прымаўка «Хлеб еш, а праўду рэж». Атрымалася, што яна тады актуальнае і сімвалічнае значэнне мела. Часта пішу на боханах радкі з вершаў. Чытаю нешта і занатоўваю. Прымавак пра хлеб у беларусаў вельмі шмат: «Усё не бяда, калі ёсць хлеб ды вада», «Як ты сала не хвалі, а без хлеба не з'ясі», «Хлеб — у доме гаспадар», «Хлеб — над панамі пан»...

**«НН»: Кастусь, дык якому хлебу усё ж аддаць перавагу: хатняму ці зробленаму на прамысловасці?**

**КЛ:** Усё вельмі проста: купляючы хлеб у краме, мы адмаўляемся ад моманту шчасця, якое можна адчуць, калі гарачы, духмяны хлеб выцягваеш з печы! Выбар за кожным.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

**Кастусь Ларкоў**

Нарадзіўся ў Верхнядзвінску. Пасля заканчэння школы паступіў у Віцебскае вучылішча кулінарыі, потым быў Магілёўскі ўніверсітэт харчавання. Хлебам Кастусь «займаецца» з 1999 года. Цяпер працуе майстрам на хлебазаводзе ў родным Верхнядзвінску.

# Дачка Шамякіна настальгуе па Сталіну

Яе ўспаміны **«Як жыла эліта пры сацыялізме»** апублікаваны ў часопісе «Нёман».

Іван Шамякін — класік сацрэалізму, аўтар раманаў «Сэрца на далоні», «Атланты і карыятыды», «Вазьму твой боль», пенталогіі «Трывожнае шчасце». Гэтыя творы прынеслі Шамякіну званні Народнага пісьменніка і Героя Сацыялістычнай Працы.

У Івана Пятровіча і яго жонкі Марыі Філатаўны (пра іх адносіны пісьменнік напісаў аповесць «Слаўся, Марыя!», дзе няма палітыкі і ідэалогіі, а ёсць сапраўднае каханне) нарадзілася чацвёра дзяцей.

Сын Аляксандр працаваў геолагам, памёр саракагадовым.

Тры дачкі сталі філолагамі (розніца паміж старэйшай і малодшай складала 20 гадоў).

Самая вядомая з іх — Таццяна. У свой час яна абараніла доктарскую дысертацыю па міфалогіі. Цікава, што сваю другую дачку яна назвала рэдкім імем Славяна.




**Таццяна Шамякіна (злева), яе сястра Алеся (справа) і пляменнік Аляксей.**

Таццяна Іванаўна з настальгіяй згадвае савецкія часы. Ганарары ў члена ЦК КПБ былі гіганцкія, Іван Шамякін быў чалавекам працавітым, і сям'я пісьменніка жыла нібы пры камунізме.

У 1952-м, калі большасць людзей жылі ў цёмных хатках і хлявах, сям'я атрымала трохпакаёвую кватэру ў доме на рагу вуліцы Камсамольскай і праспекта Сталіна (цяпер Незалежнасці) — насупраць будынка КДБ.

Яшчэ тры гады — і Шамякіны паляпшаюць жыллёвыя ўмовы, перасяляючыся ў пісьменніцкі дом на Карла Маркса, 36, дзе атрымалі чатырохпакаёвую кватэру.

А з 1970 года вялікая сям'я перасялілася ў пяціпакаёвую кватэру на вуліцы Янкі Купалы (побач з жытлом Пятра Машэрава).

Пазней Іван Пятровіч пабудаваў дзецям кааператыўныя кватэры, і яны раз'ехаліся.

Такія ж заробкі атрымлівалі асобныя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Але адначасова былі ўключаны ў савецкую сістэму і працавалі дзеля яе ўслаўлення.

Чаму ж СССР, жыццё ў якім было такім цудоўным, распаўся? Шамякіна бачыць тры прычыны.

Першая — замежная змова. Напрыклад, яна піша са слоў Андрэя Макаёнка, што за мяжой існавала каля двухсот антысавецкіх навукова-даследчых інстытутаў. Сярод іншага, сцвярджае яна, там прыдумлялі анекдоты пра дрэнных жонак і злых цешчаў, каб «знішчыць інстытут сям'і, бацькоўства, рамантычнай любові, усе звыклыя для чалавека каштоўнасці».

Другая прычына — здрада асобных прадстаўнікоў савецкай інтэлігенцыі, якія на словах падтрымлівалі афіцыйны курс, але думалі інакш.

Трэцяя прычына — маральнае падзенне кіраўніцтва. Таццяна Шамякіна крытыкуе Хрушчова і Брэжнева. Добрыя словы затое яна знаходзіць для Сталіна. Знос помніка «бацьку народаў» у сям'і Шамякіных палічылі глупствам Хрушчова, бо «звяржэнне куміраў — пачатак ліквідацыі краіны, і нават цывілізацыі».

На фоне гэтых выказванняў на другі план адыходзіць сутнасць — успаміны аб побыце беларускай савецкай эліты. А яны каштоўныя. Шамякіна апісвае жыллё ардэнаносных пісьменнікаў, звычкі і адпачынак. Кожны можа параўнаць са сваім жыццём.

**Андрусь Вяткоўскі**

**Успаміны надрукаваныя ў №9 часопіса «Нёман», сайт neman.lim.by**

# Адно слова — інтэлігенцыя

Піша **Франц Сіўко**.

Уразіў фрагмент **гутаркі Вольгі Гарапучык з Аляксандрам Варламавым ад 8 студзеня**, дзе мадэльер распавядае пра сваё расчараванне паводзінамі людзей, з якімі меў да арышту нармальныя (пэўна ж, з кімнікім і сяброўскія) стасункі і якія ў сітуацыі апалы ды асуджэння не знайшлі ў сабе волі і жадання ні заступіцца, ні хаця б маральна чалавека падтрымаць. Высокапастаўленыя чыноўнікі, міністры, навукоўцы — усіх, як выцякае з інтэрв'ю, быццам карова ўвадначас з акружэння падзараванага языком злізала.

Не з чужых словаў знаёмая гісторыя. Адно што персанажы розныя. У маім выпадку — не такім, канечне, брутальным, як у Варламава, а ўсяго толькі (!) звязаным з непрацягненнем кантракта на выкладчыцкую працу ва ўніверсітэце, — гэта таксама не цяслі з даяркамі былі: рэктар і прарэктар, людзі з вучонымі ступенямі, адзін з якіх, даўно ўжо пенсіянер, дарэчы, па сённяшні дзень ў даважак да асноўнае працы праўладным грамадскім аб'яднаннем рэгіёна кіруе. Калегі па кафедры, дактары ды кандыдаты навук, з якімі калі і не пуд солі разам давялося за 20 год з'есці, дык пару кіло — дакладна. Увогуле, неблагія людзі, не якія-небудзь там кандовыя фантамасы ці сабакевічы, прыязныя, таварыскія, на першы погляд, асобы, класічных твораў літаратуры ды мастацтва аматары-прыхільнікі. Інтэлігенцыя, словам.

Кампліментамі любага калегу напярэдадні звальнення засыпалі, абурэннем заходзіліся, а да справы дайшло — быццам вады ў рот, восьмы дзясятак некаторыя размяняўшы, набралі. А тым часам не так ужо каб ад немінучае нэндзы і голаду праз маўчанне тое ратаваліся: і гірсу, калі і елі яе, дык не апошнюю, і жмыхам яблычным наўрад харчаваліся. Дый што пра запаветы Божыя чуць да тае пары не чулі — ніяк не скажаш. Статус інтэлігентаў разам з дыпломам аб вышэйшай адукацыі набылі, а ўрокі інтэлігентнасці пры гэтым вывучыць, гэтаксама як і досведам інтэлігентаўпапярэднікаў узбагаціцца, відаць, не парупіліся.

Пісьменніку і навукоўцу У.Арсенневу, аўтару знакамітага твора «Дэрсу Узала», падчас навукова-даследчых экспедыцый па таёжным краі не да дэманстравання інтэлігенцкасці было: і спаць у вопратцы нярэдка выпадала, і харчавацца не за сталом, абрусам чысцюткім накрытым, даводзілася. Але калі надарыўся выпадак, што трэба было ўнаначкі пайсці да суайчынніка, які тубыльцаў крыўдзіў, — катэгарычна чалавек адмовіўся. І гэтак ночы на дывідэнды ад хаўрусавання з д'яблам не пажадаў ахвяраваць, бо быў інтэлігентам.

Дакараць кагосьці ў часы, калі паўсюль што ні дзея, то свінства і момант рызыкі як вынік узвядзення таго свінства ў ранг афіцыйнае ідэалогіі рогамі паўстае, — тое самае, што, як казала Како Шанэль, займацца космасам замест таго, каб забяспечыць усіх больш-менш прыстойнымі прыбіральнямі. Не ў дакаранках справа. А ў дэфармацыі свядомасці — захворванні, што і не заўважыш, як з фазы лёгкага функцыянальнага адхілення ад нормы ў стан арганічнага пяройдзе. Што ўжо, як сведчыць прыклад таго ж Варламава, ды і шматлікія іншыя прыклады, і адбываецца.

*Віцебск*

**Вы пісалі**

# Ветэраны пратэстуюць супраць свастыкі на гербе Кармы

Некалькі дзясяткаў кармянскіх ветэранаў падпісаліся пад калектыўным зваротам «Па факце здзеку з дзяржаўнай сімволікі Прэзідэнта РБ пры дапамозе нацысцкай свастыкі на выяве Сцяга РБ». Свой зварот яны даслалі ў газету «Наша Ніва».

Скандальная гісторыя пачалася, калі старшыня Кармянскага райвыканкама Іван Навуменка выпісаў удзячнасць Першаснай ветэранскай арганізацыі Стараградскага сельсавета — за ўдзел у конкурсе самадзейнасці «Не старэюць душой ветэраны».

Ветэраны ўдзячнасці не парадаваліся. Яны абурыліся афармленнем бланка. У версе старонкі была размешчаная квадратная выява сцяга Кармы на фоне чырвона-зялёнага дзяржаўнага сцяга — шаблоннае афармленне дакумента.



**Герб Кармы**

Сіняе палотнішча з суадносінамі шырыні і даўжыні 1:2, у сярэдзіне — два белыя шабельныя эфесы, пакладзеныя ў андрэеўскі крыж.

Аснова герба і сцяга —радавы герб «Абшланк», які належыць уладальнікам Кармы ў XIX стагоддзі —роду Быкоўскіх. Аўтар праекта герба і сцяга — архітэктар В.М.Мельнікава.

Але ветэраны ўбачылі ў гэтым ідэалагічную дыверсію.

«На бланку ўдзячнасці на выяве дзяржаўнага сцяга Прэзідэнта РБ у цэнтры размешчаная фашысцкая свастыка на блакітным фоне, — абурыліся яны. — Для нас непрымальная прапаганда фашысцкіх сімвалаў .... Нас абурае здзеклівае стаўленне дзяржчыноўнікаў да ветэранаў і ахвяраў ВАВ. Бо нават бацька Прэзідэнта абараняў Радзіму ў ВАВ», — пішуць ветэраны.

Ветэраны накіравалі зварот у генеральную пракуратуру. Што яны патрабуюць? «Спыніць здзек з ветэранаў», «спыніць уручэнне такіх удзячнасцяў», «апублікаваць прабачэнні чыноўнікаў».

«Наша Ніва» пагутарыла з ініцыятарам звароту, магілёўцам Аляксеем Паўлоўскім. Ці бачыў ён калі-небудзь кармянскую геральдыку?

«Гэта вы, журналісты, усе такія разумныя! А ў нас, простых людзей, каго не спытаеш — усе свастыку бачаць. Я магілёўскаму ідэолагу паказаў выяву, дык яна за галаву схапілася! А герб Кармы авальны, а не такі, як на бланку намялявалі».

Ніякія тлумачэнні, што апроч «авальнага» герба Кармы існуе яшчэ і прастакутны сцяг Кармы, які і выкарыстал і чыноўнікі, на ветэрана не падзейнічалі.

Ён, як і астатнія складальнікі звароту, па-ранейшаму патрабуе пакараць вінаватых у «прапагандзе фашысцкіх сімвалаў».

**Ягор Марціновіч**

# Медыкі хуткай дапамогі, падтрымліваем вас!

Чаму ў артыкуле аб пратэстах медыкаў «Хуткай дапамогі» **(«НН» №1)** не пастаўлена пытанне пра стаўленне прафсаюза да справядлівых прэтэнзій працоўных? Так, гэта мусалініеўскі тып прафсаюза, псеўдапрафсаюз. Трэба іх змушаць варушыцца. І вось чаму. Меншая мафія баіцца большай мафіі. Але калі ў меншай мафіі будзе падпіранне знізу, то і яна зможа нешта пратыкнуць у большай. Без народнага ціску на іх ніц не бэндзе! Так што працоўным варта, хоць і гідуючыся, ціснуць на прафсаюз.

Далей, не забудзем, што ўсе начальнікі распараджэннем зверху з 2006 года павінны штодня апаўдня дакладваць пра настроі ў працоўных калектывах. То хай даложаць пра паганы настрой у калектыве!

А партыі, што яны робяць? Пашыраюць у насельніцтве інфармацыю пра справядлівыя нараканні медыкаў? Дзе Лёша Януковіч і красаўчык Губарэвіч? Дзе дэндзі Толя Лябедзька? У вас ані слова, ані беднага.

Кожны грамадзянін зацікаўлены ў якаснай працы хуткай помачы. Усе мы пад Богам ходзім. То чаму нас павінна ратаваць нізкаякасная служба? Гэта наогул абуральна, што ў такім вялікім і дарагім горадзе работнікі маюць такі мізэрны заробак. Чаму вы не папракнулі ўладу? Ёй жа ўсё гэта ..., яна мае сваю лечкамісію для абраных. Не трэба баяцца трошкі гіпербалы, тут яна сапраўда.

**Народны чытака і селькар, Мікола Бусел, Дуброва (Светлагорскі раён)**

P.S. Далей, чаму вы следам за пятай калонай (той сапраўднай, якая гатова здаць незалежнасць Беларусі) ужываеце слова «рэспубліканскі» («не планавалі выводзіць на рэспубліканскі ўзровень»)? Правільна пісаць не савецкае «рэспубліканскі», а «агульнанацыянальны». Дарэспубліканяцца, халера яго мацеры!

**Заклік**

# Мінску — вуліцу імя Мандэлы!

Беларуская партыя «Зялёныя» прапануе Мінскаму гарсавету разгледзець пытанне аб тым, каб адна з вуліц горада атрымала імя лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру і першага прэзідэнта Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, які быў з ліку карэнных жыхароў, — Нэльсана Мандэлы.

**Партыя «Зялёныя»**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**

**Факс: (017) 284-73-29**

# А народныя грошы не хвалююць?

У газеце Бярозаўскага райвыканкама «Маяк» выйшаў артыкул галоўнага ветэрынарнага доктара раёна Генадзя Белавежкіна, у якім той пагражае сялянам за ўтрыманне свінняў адміністратыўнай і крымінальнай адказнасцю.

Піша, што з прычыны афрыканскай чумы свінняў Бярозаўскі мясакансервавы камбінат панёс выдаткаў на 10 млрд рублёў, не маючы магчымасці экспартаваць сваю прадукцыю ў Расею...

У сувязі з гэтым Белавежкін «дзеля падтрымання жыццядзейнасці дзяржаўных прадпрыемстваў» нагадвае жыхарам раёна пра ўведзеную ў гэтым годзе ўладамі забарону на ўтрыманне свінняў у радыусе пяцікіламетровай зоны ад свінакомплексаў. У Бярозаўскім раёне ў гэты радыус трапляюць дзясяткі вёсак.

Разам з тым, адзначае ветэрынар, у раёне застаюцца сяляне, якія працягваюць утрымліваць свіней. На васьмярых з іх ужо складзеныя пратаколы...

О так, ветэрынара хвалююць 10 млрд рублёў выдаткаў дзяржаўнага прадпрыемства. А страты, якія панёс народ, каго хвалююць? Дык у нас дзяржава для народа ці народ для дзяржавы, як пытаўся Каліноўскі?

**Іван Мастыка, Бярозаўскі раён**

**Жарт**

# Хітрыкі

«У Хадоркі — адгаворкі»,
Ну, а ў Мані выбрыкі.
Каб не здраджваць
шлюбнай клятве,
Прыхавала хітрыкі:
«Сустракацца нам не варта,
Для любошчаў бо старыя, —
Без імпэту, без азарту.
Стрэнемся, калі зарыюць
Нас у жвіры беларускім
Паасобку ці то разам,
Мы звычайным
прахам-друзам
Назаўсёды і адразу».

**Мікола Яўмененка, Чудзенічы (Лагойскі раён)**

**Ёсць задума**

З дапамогай народнага фінансавання хочам збудаваць экалагічны гатэль.

У залежнасці ад колькасці перададзеных сродкаў чалавек зможа ўвайсці ў склад кампаніі.

**Аляксандра Рамановіч, Бешанковічы**
**Тэл. (029) 293-71-60**

**Удакладненне**

У «НН» ад 8 студзеня на старонцы 8 у нататцы пра расійскі праект «Голас» гаворка была, вядома, пра Наргіз Закіраву, а не Наргіза Закірава. Наргіз — таленавітая і неардынарная спявачка, няхай і без валасоў.

# Веліч і драма Вялікай Літвы

ў новай пастаноўцы Тэатра імя Янкі Купалы **«Пан Тадэвуш»**.

Мікалай Пінігін паставіў спектакль, які цэнзура не прапусціла без правак. Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы быў змушаны зняць старадаўнюю «Пагоню» ў адным з эпізодаў і замяніць чырвоны колер на аранжавы ў іншай мізансцэне, бо Міністэрства культуры пабачыла там алюзію на бел-чырвона-белы сцяг. Аднак праўкі спектакль не сапсавалі. Трохгадзінная драма глядзіцца на адным дыханні.

Гэтай пастаноўцы суджана стаць класікай: гэта першы «Пан Тадэвуш» у беларускім тэатры.

А твор той самы, у прадмове да якога Міцкевіч напісаў вось гэтыя радкі:

Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое:
Не цэнім маючы, а страцім залатое —
Шкада...

Гэтае знакамітае выказванне рэжысёр выносіць у канец спектакля. Кожны чалавек, кожны выгнанец мог такое сказаць пра сваю радзіму. Але сказаў наш зямляк, пра нашу зямлю, з яе барамі і азёрамі... Літвой у тыя часы называлі Беларусь, калі хто забыўся.

Мікалай Пінігін — канцэптуальны творца, якога цікавяць ідэі. Гэта такая рэдкасць ва ўсе часы. Ён выдатна ставіў Купалу, Коласа, Дуніна-Марцінкевіча, і кожная пастаноўка робіцца падзеяй. Цяпер дабраўся да Міцкевіча.

Спектакль абазначаны як «Шляхоцкая гісторыя». Зрабіць беларускую інтэрпрэтацыю Міцкевіча не так і проста, бо ён хоць і быў нашым земляком, хоць і пісаў пра гэтую зямлю, але бачыў яе ў складзе Польшчы. І не ён адзін — уся шляхта тады была такая. Гэта непазбежна цягне складаныя пытанні.

Якім чынам «Рэч Паспалітая абодвух народаў» паступова ператварылася ў Польшчу, Літву, Беларусь? Якім чынам тутэйшыя зразумелі сябе беларусамі? Шляхта — нашы эліты старых часоў. Як нам працягнуць нітку пераемнасці з імі, калі мы хочам быць гістарычнымі?

Хто мы такія? Чаму мы такія? Якія мы павінны быць, каб наша нацыя заняла «свой пачэсны пасад між народамі»? Гэтыя вялікія пытанні ставіць сваімі пастаноўкамі Пінігін. І калектыў тэатра жыве інтэлектуальным пошукам разам з рэжысёрам.

Міцкевіч у ягонай пастаноўцы — гэта ні разу не дрындушкі. Пінігін свядома арыентуецца на класічную эстэтыку. Аматары авангарду, фармальных навацый былі «Панам Тадэвушам» расчараваныя. Ні сэксу, ні крыві, ні ванітаў на сцэне няма — толькі метафары. Страшнай сілы часам: напрыклад, сцэна рэкруцкага набору. (Колькі пакаленняў беларускіх хлопцаў імперыя паклала ў магілы!) Тэатральны крытык Вячаслаў Ракіцкі назваў гэтую мізансцэну «спектаклем у спектаклі, які можна паказваць асобна», «сапраўднай рэжысёрскай перлінаю».

«Пан Тадэвуш», паміж іншага, нагадвае: беларусы — асобная нацыя са сваёй гісторыяй, і наш гістарычны вопыт іншы. Вайна 1812 года была для Беларусі не тым самым, чым яна была для Расіі ці Польшчы. Ніхто раней не наважваўся сказаць гэтую гістарычную праўду з тэатральнай сцэны.

Пінігінскі «Пан Тадэвуш» таксама засцерагае нас ад празмернага рамантызму. Пасля прыгожых парываў часам застаюцца руіны, як у фінале драмы... Велічныя, прыгожыя, але руіны.

На перадпрэм'ерным праглядзе спектакля прысутнічаў міністр культуры Барыс Святлоў. Сведкі расказваюць, што ён сядзеў змрочны і ні разу не запладзіраваў. На яго гледзячы, не пляскаў і дырэктар Мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў. Відаць, чыноўнікаў трывожыла сімволіка — кшталту эпізадычнай Пагоні — герба Вялікага Княства, пад якім выступалі героі «Пана Тадэвуша».

Пасля прагляду ў пастаноўцы былі зроблены цэнзурныя праўкі. Цяпер ён ідзе супраць гістарычнай праўды ў гэтым сэнсе. Аднак праўкі не змянілі, не сказілі аўтарскай задумы. (Хоць, думаю, варта было ў сцэне са сцягамі адмовіцца і ад польскага Арла, і ад жмудскага Мядзведзя, калі трэці сцяг — не Пагоня. Раз няма магчымасці паказаць тую трыяду сімвалаў Рэчы Паспалітай, то хай бы гэта былі нейтральныя сцягі без знакаў.)

Купалаўцы не дадалі да Міцкевічавага тэксту ні слова, таму да іх няма як дачапіцца. У спектаклі няма нічога такога, за што яго можна было б забараніць. Спектакль проста нясе магутны зарад светлага патрыятызму. Прычым гэта не літвінізм — гэта ўніверсальны, вечны патрыятызм, любоў да радзімы, кожнай радзімы і нашай радзімы.

Пры ўсім добрым акадэмізме пастаноўкі яна відовішчная — часамі з гумарам, часамі з добрай музыкай. Будзе падабацца студэнтам і школьнікам.

Думаю, «Пан Тадэвуш» стане тым спектаклем, на які будзе няпроста здабыць квіток.

**Андрэй Дынько**






**Тэлімена** (Юлія Шпілеўская, Святлана Анікей)

праяўляе вытанчанасць пецярбургскіх салонаў, робячы балетны экзэрсіс каля станка.

**Граф** (Раман Падаляка)

ствараў вельмі характарны, смешны вобраз сваім польскім акцэнтам у беларускай мове, але ў другой палове спектакля трохі «прападае», не перадае супярэчнасцяў персанажа.

**Пан Тадэвуш і аўтар** (Павел Харланчук-Южакоў)

найскладанейшы для выканання герой. Тут і патрыятычны парыў, і юнацкі пошук кахання, і ўдзел у маёмасным канфлікце... Задача для сапраўднага генія... Акцёру трэба яшчэ працаваць з мовай.

**Бліскучыя старыя купалаўцы**

Нават калі б у «Пану Тадэвушу» не было астатніх вартасцяў, на спектакль варта схадзіць, каб пабачыць ігру Генадзя Аўсяннікава, Мікалая Кірычэнкі, Сяргея Жураўля.

**Геніяльная сцэнаграфія**

Зіновій Марголін пацвердзіў сваё рэнамэ. Захапляюць таксама раскошныя касцюмы (мастак — Алена Ігруша).

**Першы пасля рэканструкцыі**

«Пан Тадэвуш» быў першай паўнавартаснай прэм'ерай тэатра пасля рэканструкцыі.

**Цікавасць да Міцкевіча**

У 2013 ішлі «Дзяды» ў прыватным «Тэатры Ч.» і Дзяржаўным тэатры лялек.

**Паэма «Пан Тадэвуш»**

была напісана Адамам Міцкевічам на выгнанні, у Парыжы, у 1832—1834. Яна паўстала пасля паразы Паўстання 1830—1831 гадоў, калі стала ясна, што Расія кантралюе сітуацыю, а выгнанне Міцкевіча будзе доўжыцца доўга, а мо і вечна.

Дзеянне паэмы адбываецца ў Беларусі, а мова поўная беларусізмаў.

**Беларускія пераклады**

Для палякаў паэма хутка стала культавай. Але і беларусы разумелі значэнне паэмы: Міцкевіч стварыў, хоць і па-польску, сапраўдны гімн «гістарычнай Літве».

Ужо ў 1859 годзе паэму пераклаў на беларускую мову Дунін-Марцінкевіч. У XX стагоддзі выйшлі беларускія пераклады Браніслава Тарашкевіча (1932), Пятра Бітэля (1955) і Язэпа Семяжона (1985). Вось гэты апошні пераклад, самы дасканалы, і выкарысталі ў тэатры імя Янкі Купалы.



**Мікалай Пінігін**

Нарадзіўся ў 1957 ва Украіне. Аўтар пастановак «Тутэйшых» (1990), «Сымона-музыкі» (2005) і «Пінскай шляхты» (2008), якія сталі класічнымі для беларускага тэатра.

**Міністр Шуневіч**

Міністр унутраных справаў з жонкай прысутнічаў на прэм'ерным паказе «Пана Тадэвуша».

**Квіткі каштуюць**

ад 40 да 160 тысяч рублёў. У зале тэатра 360 месцаў. Усе тры дні прэм'ераў быў аншлаг.



24-гадовы расеец Павел Сапожнікаў спрабуе выжыць ва ўмовах Сярэднявечча — без сучасных выгод і сродкаў сувязі. Ён жыве ў курной хаце, карыстаецца інструментамі, адзежай і прадметамі побыту, аналагічнымі сярэднявечным. У яго ёсць гаспадарка: куры і козы. Копія «старажытнарускага хутара» збудаваная сярод лесу ў Сергіева-Пасадскім раёне Маскоўскай вобласці. Жыццём чалавека X стагоддзя Павел жыве ўжо чацвёрты месяц.

# У Мінск прывезлі «дары вешчуноў». Што гэта такое насамрэч?

У Мінск прывозілі рэліквію з Афонскага манастыра — дары вешчуноў. Пабачыць іх можна было ў Доме міласэрнасці.

Рэліквію везлі праз Расію. У Маскве і Пецярбургу людзі, каб пабачыць яе, стаялі па шмат гадзін у чэргах.

Гэтыя дары, расказаў вернікам патрыярх Маскоўскі Кірыл, былі «клапатліва захаваныя Дзевай Марыяй, Маці Збаўцы, і перададзеныя Ёю ў Іерусалімскую царкву, дзе яны захоўваліся да IV ст., а затым былі перанесеныя ў новую сталіцу Усходняй Рымскай Імперыі — горад Канстанцінопаль. Калі ж паўстала небяспека іншаземнага ўварвання ў Канстанцінопаль, то гэтая святыня была перанесена на гару Афон, дзе з тых часоў захоўваецца ў манастыры Святога Паўла».

«Дары» ўяўляюць сабой не амфары ці куфры, у якіх вешчуны маглі б прынесці Немаўлятку Ісусу золата, ладан і смірну, а невялікія залатыя падвескі, упрыгожаныя тонкім арнаментам.



Як паведамляе афіцыйны блог экспертаў Музея імя Андрэя Рублёва, першым з праваслаўных пра дары вешчуноў згадаў Дабрыня Ядрэйкавіч — будучы наўгародскі епіскап Антоній. Будучы ў Візантыі ў 1200, ён адзначаў (з чужых словаў), што ў Сафіі ёсць «сасуды залатыя», якія нібыта прынеслі Хрысту вешчуны. Гэтыя ж сасуды згадваюцца і ў іншых тагачасных апісаннях Канстанцінопаля, аднак літургічнага шанавання гэтых залатых сасудаў — здавалася б, гэтак каштоўных хрысціянскіх рэліквій — ніколі ў Візантыі не было.

Дабрыня кажа менавіта пра сасуды, а не пра залатыя пласціны-нашыўкі, якія сёння называюцца «дарамі вешчуноў». Першая ж гістарычная згадка «дароў» у сучасным іх выглядзе ўтрымліваецца ў дакуменце канца XV стагоддзя, а падрабязнае апісанне сустракаецца з сярэдзіны XVIII ст.

Апісвае іх падарожнік Васіль Грыгаровіч-Барскі родам з Кіева, які наведаў Афон у 1744. Ён адзначае, што ўпрыгожанні падаравала афонскім манахам «Мара, дачка Юрыя, валадара Сербскага».

Гэта гістарычная асоба — Мара Бранкавіч, 1418 г.н., дачка сербскага дэспата Георгія (Джурджу) Бранкавіча (кіраваў Сербіяй ад 1427 да 1456) і Ірыны Кантакузіны (візантыйскай прынцэсы), жонка (ад 1435) асманскага султана Мурада II.

Факт прынясення Марай Бранкавіч у дар сербскаму манастыру Св. Паўла на Афоне ў 1470 позневізантыйскага залатога пояса з 9 залатых пласцін і 69 пацер з сумесі ладану і смірны быў дакументальна зафіксаваны ў турэцкім фірмане, страчаным у 1902 падчас пажару. Праўда, ні Мара Бранкавіч, ні турэцкія храністы яшчэ не ведалі, што гэта былі тыя самыя «дары вешчуноў».

Такія залатыя паясы былі вядомыя ў візантыйскіх імператараў, яны падкрэслівалі іх сан інсігніі (былі знакамі магутнасці, сану), але ў ніводнай з гістарычных крыніц няма ні слова пра залаты пояс з дарамі вешчуноў.

Геаметрычныя ўзоры на залатых пласцінах выкананыя ў тэхніцы тыповай поствізантыйскай сканії, аналагі якой лёгка адшукаць на акладах афонскіх абразоў XV—XVI ст.

Пазней пояс быў падзелены на асобныя фрагменты. А ў пачатку 1980-х «дары вешчуноў» пачалі выкарыстоўвацца Грэцкай царквой для збору ахвяраванняў, і да іх быў складзены адпаведны канон.

**Сяргей Мікулевіч**

# «Разрушыцель» у Гродне

Гісторык **Сцяпан Стурэйка** напісаў іранічна-фантастычную аповесць у манеры Дэна Браўна.

Чаму ў кожным старадаўнім горадзе мусіць быць гістарычны цэнтр? Бо старыя будынкі ствараюць станоўчую энергетыку прасторы і літаральна «зараджаюць» людзей пазітывам.

Не дзіўна, што савецкія спецслужбы распрацоўваюць раствор, які прымушае людзей забываць пра выгляд дамоў, магазінаў, гістарычных помнікаў. У лепшым выпадку, краявіды вяртаюцца ў снах. У выніку пачынаецца суцэльнае бяспамяцтва. А таму зносіць будынкі зусім не складана.

Такія падзеі адбываюцца ў творы «Разрушыцель», які напісаў Сцяпан Стурэйка. Гісторык, выкладчык ЕГУ, ён даследуе культурную спадчыну. У тым ліку, вывучае архітэктуру Гродна.

У цэнтры сюжэта — падзеі, якія адбываюцца ў савецкія часы ў памежным горадзе Нёман на берагах ракі Кронан. Галоўных герояў у «Разрушыцелі» некалькі. Чужынец Данііл, які прыехаў у горад з іншай часткі СССР, — супрацоўнік аблвыканкама. Ён атрымлівае заданне: падрыхтаваць абгрунтаванне для зносу касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Маці Божай. Мясцовая жыхарка Таццяна выступае супраць неабгрунтаваных зносаў. Тым часам у горад прыязджае эмігрант Роберт, які працуе на ЦРУ. Ён сустракаецца з Таццянай, а таксама мясцовым краязнаўцам, распытвае іх пра падрабязнасці, але сам мае іншыя мэты. Насамрэч, Масква таемна прадае на Захад беларускія культурныя каштоўнасці, каб мець грошы на прамысловасць...

Паралельна з захапляльным сюжэтам Стурэйка ненавязліва раскрывае чытачам тэрмін «ахова спадчыны», прапануе варыянты пошукаў нёманскіх помнікаў, зніклых у мінулым, а таксама ў манеры Дэна Браўна разважае пра сакрэтныя пратаколы да Венецыянскай хартыі, прысвечанай захаванню і рэстаўрацыі помнікаў.

Глыбокія ідэі, якія выказвае аўтар, часам пераўзыходзяць мастацкія вартасці «Разрушыцеля». Але ці з'яўляецца гэта галоўным?

У свой час Уінстан Чэрчыль, які напісаў некалькі добра чытаных даследаванняў (напрыклад, 6-томную «Другую сусветную вайну» і 4-томную «Гісторыю англамоўных народаў»), атрымаў Нобелеўскую прэмію менавіта ў галіне літаратуры.

Зразумела, што напісаннем «Другой сусветнай» Чэрчыль вырашаў іншыя задачы. Ён абгрунтаваў слушнасць сваіх дзеянняў на карысць Англіі.




Адстойваць гістарычную спадчыну можна па-рознаму. Праз грамадскі супраціў. Праз навуковае даследаванне. А яшчэ — вось так, праз літаратуру. «Разрушыцеля» Сцяпана Стурэйкі можна прачытаць у інтэрнэце на сайце радыё «Твой стыль» (t-styl.info).

**Глеб Кандрацьеў**

**Дзе варта быць**

# Белая Русь і яе суседзі

Гэтая ўнікальная выстава ідзе ў Гістарычным музеі (Маркса, 12). У экспазіцыі — больш за 700 аўтэнтычных помнікаў традыцыйнай культуры народаў, якія засялялі землі гістарычнай вобласці, якая атрымала назву «Белая Русь». Гэта беларусы, літоўцы, латышы, палякі, украінцы і іншыя — усе тыя этнасы, што некалі пражывалі ў межах адзінай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.

Найперш гэта народныя касцюмы, у тым ліку вясельныя ўборы, рамесныя вырабы, калекцыя ўнікальных музычных інструментаў.

Выстава сфармаваная са збораў Расійскага этнаграфічнага музея — аднаго з найбуйнейшых у Еўропе. Яна працягнецца да 26 студзеня.

# Пацеркі



**Вікторыя Міхнюк.**
Апавяданне.

Дзяўчынка нудзілася. Дрэвы ў шэрані, неба сівое, а больш нічога не відаць. І сцены белыя, і столь. А галоўнае — ціха, бы вушы ватай набілі.

Снег падаў цяжкімі камякамі. «Як манка», — уздыхнула малая. Разынак у кашы ўжо не засталося. Лядоўня раз-пораз незадаволена булькала ў куце.

За сцяною пачуўся стракат машынкі. Знарок грукаючы, дзяўчынка падцягнула расхістаны зэдлік да акна. Рэбры батарэі апякалі каленкі. Уткнуўшыся кірпатым носам у шыбу, яна глядзела на двор. Нікога, ніводнага следу, толькі рабіна чырванее кроплямі ацалелых ягад.

— Ліса, хадзі сюды!

Жанчына разгладжвала адной ёй бачныя зморшчынкі на бязважкай тканіне. У няпэўным святле снежаньскага ранку шклярус на дзіцячай сукенцы паблісквеў бы іней.

— Ай! Мам, ты шпількі не выцягнула.

— Цярпі, казак, — усміхнулася дачцэ. — Нам з табой толькі манжэты засталіся. Ну, усё, падымай рукі!

Яна зноў схілілася над шытвом, насупіўшы бровы. Пацеркі разбягаліся ад іголкі. Перасмыкнуўшы, бы ад холаду, плячыма, паправіла свой грубы цёмны шаль і запаліла лямпу. Пад вачыма залёг блакіт.

Малая ўскараскалася на падваконне. Падыхала на шкло, вывела кучаравую «А». Паглядзела скрозь яе на занесеную дарожку, бы чакаючы кагосьці. Ад няма чаго рабіць ціхенька калупала фарбу на раме.

— Я ўсё бачу. На во, лепей бісер перабяры, перамяшаўся ўвесь.

«Раз, два, тры — сюды, гэтая — туды, вы дзве — да яе таксама», — бязгучна рухаліся вусны; дзіцячыя пальчыкі акуратна аддзялялі круглыя перламутравыя і празрыстыя чырвоныя пацеркі ад россыпу рознакаляровых шкляных.

У дзверы пазванілі — настойліва, працягла. Дзяўчынка схамянулася, зірнула на маму.

— Сядзі, я сама, — уздыхнула тая, адразаючы апошнюю нітку. Яшчэ званок.

— Іду, іду ўжо!.. Ой, праходзьце, калі ласка.

З вітальні пачуўся стук абцасаў і высокі жаночы голас. Малая расчаравана працягвала перабіраць пацеркі, не надта прыслухоўваючыся.

— Управіліся?.. А мая Лілечка так ужо хвалявалася... ну добра, нясіце.

— І хто прыдумаў ялінкі ажно за тыдзень праводзіць, толькі клопат бацькам, ну скажыце? — гучней дадала госця, пакуль маці хавала сукенку ў футарал. Дачка кінула на яе выразны позірк цёмных вачэй. Ёй цётка не падабалася. Калі тая прыйшла ўпершыню, то, агледзеўшы яе з галавы да ног, бы ляльку, задаволена кіўнула:

— Зусім як Лілечка, вам і манекен не спатрэбіцца.

І, схіліўшыся да дзяўчынкі, дастала з бліскучай скуранай торбы прымяты мандарын, падала зацягнутай у чорную пальчатку рукой:

— Трымай, зайка.

— Мне нельга, у мяне алергія, — сур'ёзна патлумачыла «зайка».

Зачыніўшы дзверы, жанчына падышла да акна, правяла даланёю па лёгкіх дзіцячых валасах.

— Можаш больш не дзьмуцца, яна пайшла.

Малая спадылба глядзела на замецены двор, падпёршы шчокі. «І сукенка не мне, і ялінку дагэтуль не паставілі...»

— А яны прыедуць?

— Прыедуць. Толькі не сёння, а на нашае Раство. Я ж казала...

— Казала... — надзьмулася дзяўчынка. — Андрэйка, напэўна, без мяне на галаву вырас. А ў Веранікі косы адраслі... Бабці, напэўна, цяжка ўжо яе заплятаць, ручкі баляць, так, мам?

— Аліцыяй будуць цябе дражніць, — не звярнуўшы ўвагі на апошнія словы дачкі, нягалосна адказала жанчына, узіраючыся ў штосьці за акном.

— Як заўжды.

— Як заўжды. Ой, глядзі, гіль!

— Дзе? — дзяўчынка ўстала на дыбачкі.

— Ды вунь, на галінцы.

— Бабуля кажа, што гіль — Божая птушачка. Праўда, мам?

— Праўда.

— А манку ён будзе?

Жанчына не адказала — у вітальні зноў пачуўся званок, але званілі не ў дзверы.

Яна зняла слухаўку і пачула ўстрывожаны голас бравай: «Слухай, вы б хоць на паўгадзінкі зайшлі, а?» — «Я Аліску прывяду». — «Ды мы самі зойдзем, малым усё адно ў хаце не сядзіцца. І ты б пайшла, усё між людзей лепей. Мама твая не хацела б...» — «Заходзьце. А я і сама... як-небудзь». — «Ну, добра. І, ведаеш... ёй усё адно трэба сказаць».

— Збірайся, Ліса, чула? І толькі паспрабуй цётцы ляпнуць, што Андрэйку з Веранікай ты любіш больш! — крыкнула дачцэ з вітальні, намагаючыся, каб голас гучаў роўна.

— Ну не, — засмяялася малая. — Я іх проста бачу радзей.

— І птушкам зярнят кінеш, як выйдзеш, добра? А гіль і сам не прападзе — рабіна ўся ў ягадах.

* * *

Дзяўчынка, ружовая ад марозу, бегла па ледзь прысыпанай пяском дарожцы да ганка заснежанага пяціпавярховіка.

— Асцярожней!

— Мама, мама, глядзі, што мне падарылі!

— Ой, цуд які! Ну што, спадабалася табе ялінка ў цёці?

— Спадабалася, — азірнулася тая на невысокую кабету, якая асцярожна крочыла па той жа коўзкай дарожцы.

— Але я па табе сумавала, — ціха дадала малая, схаваўшы тварык ў маміным футры і прашаптала на вуха: — Ты чаму не сказала, што наша бабуля цяпер — як птушка?

Жанчына маўчала, толькі мацней прыціснула дзіця. Братавая спынілася ля рабіны. Трохі вінавата пасміхаючыся, глядзела ўгору:

— Ты паслухай, як прыгожа. Я і не ведала.



**Вікторыя Міхнюк**

нар. у 1995. Маладая пісьменніца. Вучыцца ў БДУ. Жыве ў Мінску.

# Апошні наезд



**Павал Касцюкевіч.**
Гумарэска.

— Стоп, стоп, стоп... — крыкнуў няўзглядны мужчына і падышоў бліжэй. — Незарэгістраваную сімволіку прыбраць, косы прапусціць праз металашукальнік і жвавенька пакінуць пляцоўку несанкцыянаванага мітынгу!

...Па-над Мацяёвіцкім полем стаяла дымавая завеса. Рэштکі паўстанцкага войска вось-вось мусілі сутыкнуцца з царскімі полчышчамі. Касцюшка цярпеў паразу, але гонар не дазваляў здацца без бою. Адчуваючы ўсю ўрачыстасць моманту, Сувораў самавітым жэстам агаліў шаблю. Атočаны шматлікім войскам, у засені імперскіх арлоў і пер'яў. Пад рытмічны бой бубнаў і вытанчаныя гамы флейт... Аднак неспадзяванае ўварванне трэцяй сілы — няўзгляднага мужчыны і яго пяці-шасці паплечнікаў — змяшала карты і расійцам, і інсургентам. Конныя палкі супернікаў, не даехаўшы колькі метраў адзін да аднаго, прыпыніліся і сталі веерам.

Няўзглядны працягваў дапытваць Касцюшку:

— Вы хто? Член Саюза палякаў? Нумар рэгістрацыі ў вашай арганізацыі ёсць?

Касцюшка ўпершыню азірнуўся назад і паволі адказаў:

— Пан Тадэвуш я.

— Што вы пан, дык ясна адразу. А Тадэвуш — гэта як? Ну, Янка — гэта Іван, там, Лявон — Леанід, а Тадэвуш гэта як?

Касцюшка страсянуў галавой.

— Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка да вашых паслугаў!

— Андрэй, значыцца... Я так і ведаў, што павінна быць нармальнае імя... — прамовіў, крыху прымружыўшыся, чалавек. — А то панапрыдумляюць сабе імёнаў — хавайся ў бульбу!

І дадаў ужо больш прымірэнча:

— Дык, Андрэй Банавентуравіч, самі ўсё разумееце: вы нецэнзурна лаяліся ў прысутнасці дзяцей.

Тут чалавек паказаў у бок пахмурных, нялыса падстрыжаных і крыху маладзейшых за сябе паплечнікаў.

— ...І таму за загадзя спланаваныя дзеянні праз розныя сацыяльныя сеткі... — тут чалавек кіўнуў у бок сялян-касінераў. — Проста адсюль самастойна паедзеце на «хатнюю хімію» па месцы прапіскі.

Касцюшка прыгаломшана зіркнуў у бок Суворава. Сувораў апусціў вочы долу.

— Вы, Андрэй Банавентуравіч, дзе прапісаны? — ніяк не даваў разняволіцца чалавек.

— Літва — мая айчына... — прашаптаў Касцюшка.

Чалавек махнуў рукой:

— А, ну, то вы ў базе! Брэсцкая вобласць, Івацэвіцкі раён... Скачыце хутчэй туды, бо ўжо ў восем вечара вас прыйдзе праверыць участковы.

— Судар! — тут да мужчыны звярнуўся Сувораў. Ён раптам учуў, што гэтая напачатку такая своечасовая помач цяпер скрадала ў яго перамогу. — Судар! Годзе вам! Я бунтаўніка ўжо сам паланю і сам жа прывязу ў межы Імперыі Расійскай!

— Прывязёш, расіянін, абвязкова прывязёш! — сказаў няўзглядны чалавек. — Толькі спярша, дарагі, заплаці за транзіт у Еўропу зброі і гужавога транспарту.

Сувораў нервова прыгладзіў сівую чупрыну і адкрыў рот, каб адказаць нахабніку.

— ...Мы з табой, брыльянтавы, яшчэ не скончылі! — перапыніў Суворава чалавек. — Дзе ў цябе спіс музыкаў, узгоднены з Міністэрствам культуры?

Сувораў разгублена глянуў на салдатаў свайго музычнага батальёна.

— Гастрольнае пасведчанне ёсць? А што, калі яны, барані бог, «Забароненыя барабаншчыкі» ці, ратуй божа, ВІА «Флейцісты-адмарозкі»?

Бубны адразу ж збіліся з рытму. Флейта, піснуўшы, змоўкла.

...Увечары, без мундзіраў і эпалетаў, два ваякі сядзелі на маленькай кухні ў косаўскай сядзібе Касцюшкаў. Сувораў азірнуўся і дастаў з халявы пляшку «смірноўкі».

— А мне за тваю галаву маёнтак абяцалі ў Кобрыне, тут недалёка, — сумна сказаў ён. — Дык, думаю, можа, усё ж на Валынь з Кутузавым памяняцца?

— Далібог, Аляксандр, з'еду я з гэтай краіны! — уздыхнуў Тадэвуш і здрадліва зашмыгаў носам. — Да індзейцаў! У прэрыі падамся!

— Годзе, не румзай, літвін, ты ж генерал! — нягаласна сказаў Сувораў і злёгку прыціснуў Касцюшку да пляча. Потым, наліўшы дзве чаркі, адышоўся праверыць уваходныя дзверы. Вярнуўшыся, яшчэ цішэй дадаў:

— Ну, пане Тадэвуш, за нашу і вашу свабоду!



**Павал Касцюкевіч**

нар. у 1979. Пісьменнік, перакладчык з англійскай і іўрыту. Жыве ў Мінску. Лаўрэат Прэміі Гедройца за 2011.

# Гомельскі бяздомны ладзіць выставу

У арт-кафэ Нацыянальнага мастацкага музея адчынілася выстава Валера Ляшкевіча — гомельскага мастака, які ўжо 20 год не мае ўласнага жытла. Беларускі мастак стаў легендарным дзякуючы сваім дзівосным працам. Дапамагаюць талент і адукацыя — Валер вучыўся ў мастацкіх вучэльнях Яраслаўля і Бранска, скончыў курсы скульптуры і архітэктуры пры Дзяржаўнай акадэміі жывапісу ў Пецярбургу. Шматлікія работы мастака захоўваюцца ў калекцыянераў па ўсёй Еўропе.

Валер — не проста бяздомны, а прынцыповы бяздомны. Жыллё яму некалькі разоў прапаноўвалі і мясцовыя ўлады, і аматары ягонай творчасці, якія збіралі грошы на аплату пакоя, але мастак заўсёды сыходзіў.

Яго дом — вакзал, дзвары ды закуткі. Але ён не бомж у звычайным разуменні, ён ніколі не просіць прадуктаў ці грошай, ён не п'е, а на апошнія грошы штотыдзень наведвае лазню.

Зусім маленькага росту, з барадой ды вусамі, сівы сталы чалавек дагэтуль адчувае сябе хлопчыкам. Рухаецца ён лёгка, вочы яго гараць, ды не проста гараць, а ўсміхаюцца. Нават шматлікія зморшчынкі на твары застылі ў пермanentнай усмешцы...

Будучы мастак нарадзіўся ў пасёлку Чкалава Гомельскай вобласці. Бацька памёр, калі Валер вучыўся ў першым класе. Калі быў студэнтам — памерла маці. Незадоўга да смерці яна пакінула сястры грошы на вучобу сына: «Дапамажы Валеру вывучыцца на мастака».

«Калі ў 1996 годзе вярнуўся ў роднае Чкалава, брат не пусціў на парог, сказаў, што дом належыць ягоным дзецям», —распавядае мастак. З таго часу мастак бяздомны.

«Думаеце, гэта лёгка — спаць на вуліцы? — пытае Валер. —Ты заўсёды жывеш са страхам, што з табой нешта зробяць. Было так, што мяне два разы абасц...лі: адзін раз выпадкова, а другі — проста каб паздзекавацца».

Свае рэчы і карціны Валер трымае ў камеры захоўвання на гомельскім вакзале. Там і малюе, у вакзальным закутку. Свае працы мастак прадае зусім танна, ад 20 да 100 тысяч рублёў, кожны сам абірае, колькі плаціць за творчасць.



**Выстава Валера Ляшкевіча працягнецца да 27 студзеня.** На ёй прадстаўлена 25 ягоных прац. Акрамя гэтага ў Нацыянальным мастацкім музеі можна набыць рэпрадукцыі прац аўтара. Усе грошы за іх пойдуць непасрэдна на дапамогу мастаку.

**Вольга Гарапучык**

## КАНЦЭРТЫ

### «Багун»

24 студзеня ў кнігарні «логвінаЎ» (Незалежнасці, 37а) адбудзецца прэзентацыя кнігі Вінцэся Мудрова «Багун». У імпрэзе возьмуць удзел Уладзімір Арлоў, Лявон Баршчэўскі, Пятро Васючэнка, Алесь Аркуш, Таццяна Козік, Ігар Палынскі (лідар гурту Sumarok), гурт «Кашлаты Вох». Пачатак а 19-й. Уваход вольны.

### Re1ikt

26 студзеня а 21-й у TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9) — сольны выступ гурту Re1ikt.

### Tarantino

29 студзеня ў бары Tarantino (Кастрычніцкая, 5) а 21-й — музычны спарынг гуртоў «Зьмяя» (рок) і «Йо-Йо» (рэгі).




23 студзеня а 19-й Літаратурны музей Янкі Купалы (Янкі Купалы, 4) запрашае на канцэрт-вечарыну «Легенды цёплай зімы». Ярамір Ярошык (лідар гурту «Хорціца») заспявае свае песні. Сябры спеўнага клуба «Дунай» выканаюць мужчынскія традыцыйныя спевы з архіўнага фонду Студэнцкага этнаграфічнага таварыства. Кацярына Ваданосава і гурт «Птушыны Шлях» прэзентуюць свае новыя творы. Алесь Чумакоў (удзельнік гуртоў «Стары Ольса», Celidh Ceol) прадставіць унікальную сольную праграму «Старыя ірландскія песні па-беларуску».

## ВЫСТАВЫ

### Бог сялянскі, хрысціянскі. Бабіцкая ікона

**Выстава «Бог сялянскі, хрысціянскі. Бабіцкая ікона»,** што экспануецца ў Мастацкім музеі (Леніна, 20), — сумесны праект Веткаўскага музея стараабраднііцтва і Чачэрскага музея. На ёй дэманструецца ўнікальная з'ява нацыянальнай культуры — бабіцкі народны іканапіс. Менавіта ў вёсцы Бабічы Чачэрскага раёна жылі і тварылі першыя сяляне-іканапісцы, пра што згадваецца ў дакументах яшчэ ў канцы XIX ст. На выставе прадстаўленыя 38 ікон з самымі разнастайнымі сюжэтамі.

### Роберт Генін. У пошуках раю

**У Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Роберт Генін. У пошуках раю», прымеркаваная да 100-годдзя першай персанальнай выставы мастака ў Мюнхене. Ураджэнец Беларусі Роберт Генін атрымаў мастацкую адукацыю ў Вільні і Адэсе, а жыў і працаваў у Германіі, Швейцарыі і Францыі. Поўны энтузіязму, прыязджае ў Маскву, каб аздобіць сцены грамадскіх будынкаў. Трагічна пайшоў з жыцця ў 1941-м.

### Дух часу і раскошы

**У Мірскім замку дзейнічае выстава «Дух часу і раскошы: мода і стыль 1820-1920-х гадоў»** з прыватнай калекцыі Ігара Сурмачэўскага. Унікальная выстава ўражвае сваім багаццем і разнастайнасцю: шыкоўныя бальныя і вясельныя сукенкі, у якіх жанчыны Парыжа, Лондана, Вены, Прагі і Нью-Ёрка паланілі не адно мужчынскае сэрца, вытанчаны абутак, разнастайныя жаночыя аксесуары.

## ТЭАТРЫ

### 23 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат
**Купалаўскі** — Пінская шляхта
**Лялек** — Чаму старэюць людзі?..
**Оперы і балета** — Чароўная флейта
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

### 24 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Купалаўскі** — Людзі на балоце
**Лялек** — Шоўк
**Юнага гледача** — Шытая лялька Рэгедзі Эн

### 25 студзеня

**Купалаўскі** — Сымон-музыка
**Лялек** — Чырвоны Каптурок
**Оперы і балета** — Кармэн
**Юнага гледача** — Вясёлы Роджар

### 26 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Купалаўскі** — Паўлінка, Офіс
**Лялек** — Мыйдадыр
**Оперы і балета** — Стварэнне свету
**Юнага гледача** — Царэўна Жабка

### 28 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Купалаўскі** — Вячэра з прыдуркам
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Оперы і балета** — Лятучы галандзец
**Юнага гледача** — Мешчанін у шляхецтве

### 29 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Белы анёл з чорнымі крыламі
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Оперы і балета** — Дон Кіхот
**Юнага гледача** — Крыху пяшчоты

## КІНО

### Пакуль гараць кнігі

Выкрадальніца кніг
Рэжысер: Браян Персіваль.
У ролях: Сафі Неліс, Джэфры Раш, Эмілі Уотсан, Ніко Лірш, Олівер Стакоўскі.
ЗША, Германія, 131 хв.

1939. Дзевяцігадовую Лізэль маці вымушаная аддаць у прыёмную сям'ю ў Мюнхен, па дарозе туды гіне яе малодшы брат. Дзяўчынка не ўмее чытаць, і ўсе ў новай школе смяюцца з яе, абзываючы дурной. Але новыя бацькі — суровая Роза і мяккі Ханс — прывязна ставяцца да яе. Ханс вучыць Лізэль чытаць, і ад гэтага занятку больш нішто ў жыцці не зможа яе адарваць, а таямніцы новых гісторый прымусяць нават красці кнігі. Асабліва гэтаму захапленню садзейнічае малады габрэй Макс, якога Ханс хавае ў сваім падвале. Экранізацыя кнігі Маркуса Зусака «Кніжны злодзей» паказвае жахі Другой сусветнай вайны, што адбываюцца на вачах Лізэль. Дзяўчынка губляе аднаго за адным дарагіх ёй людзей і знаходзіць супакой у кніжным свеце. Кнігі тут той інструмент, які дазваляе хоць неяк патлумачыць падзеі, што адбываюцца навокал, ацаніць чалавечнасць паводзінаў адных людзей і жахлівыя ўчынкі іншых.

**Настасся Уласава**



# Яхтсменка Таццяна Драздоўская: «Наш сцяг — бел-чырвона-белы»

**Чэмпіёнка свету** мае актыўную грамадзянскую пазіцыю.



Лідар зборнай Беларусі, адна з вядучых яхтсменак свету Таццяна Драздоўская летась упершыню ўзначаліла сусветны рэйтынг Міжнароднай федэрацыі паруснага спорту ў класе суднаў «Лазер-Радыял».

На фінішы года Таццяна не пакінула шанцаў суперніцам на чарговым этапе ў Аўстраліі. Чэмпіёнка свету, пераможца этапаў Кубкаў свету, уладальніца Кубкаў Эўропы — пра сябе, радзіму, родную мову і нацыянальныя сімвалы.

**— Таццяна, як становяцца «марскімі» чэмпіёнамі ў краіне, дзе мора няма?**

— Асноўныя азы можна атрымаць на любым вадаёме, на любым вадасховішчы. Яскравы прыклад: у Польшчы ёсць выдатная база Мрангова на Мазурах. Гэтае возера прыблізна такое, як Камсамольскае, дзе цяпер зрабілі Парк Перамогі. Але ў Мрангова выраслі практычна ўсе лепшыя яхтсмены Польшчы.

Так, я не вырасла на плыні, і з плынню мне ганяцца даволі складана, бо спецыфіка мора, вядома, унікальная, свае нюансы мае спецыфіка плыні. Але калі правільна зразумець спецыфіку хвалі нават у азёрных умовах, на моры ганяцца нашмат лягчэй.

**— 8–9 месяцаў на год вы праводзіце за мяжой. Якая частка свету найбольш блізкая вам па мэнталітэце?**

— Я, напэўна, нідзе і ніколі не знайду нічога больш блізкага па духу, бо ўсё роўна застануся ў Беларусі. Не змагу памяняць на нешта іншае сваю радзіму, як бы пафасна гэта ні гучала. Адзіны, як мне падаецца, больш-менш падобны да нас народ — гэта палякі. Але ніяк не далей.

**— Афіцыйная ідэалогія сцвярджае, што беларусы — браты навек выключна з расейцамі, а з палякамі — ледзь не ворагі…**

— З расейцамі кантактаваць складана. Калі шмат ездзіш па свеце, у вялікай кольказці сутыкаешся з расейцамі, якія ставяць сябе такім чынам, як быццам ім нехта нешта вінен. Вось гэтага я не люблю.

**— Летась шэраг беларускіх спартоўцаў акрэслілі сваю грамадзянскую пазіцыю, станоўча выказаўшыся наконт беларускай мовы, гісторыі і культуры…**

— Цалкам з імі салідарная. Я абсалютная прыхільніца таго, што мы — беларусы і павінны размаўляць па-беларуску. Сама я вельмі люблю беларускую мову, у захапленні ад беларускіх песень. У пэўнай ступені я, канечне, патрыёт сваёй Беларусі.

Многія сябры, асабліва мамінага пакалення, гавораць: «Таня, у цябе такая магчымасць з'ехаць, дзесьці застацца, што ты тут робіш?» А я не магу. Так, магчыма, у нас у чымсьці складаная палітыка, я гэта таксама разумею. Аднак я беларуска, менталітэт у мяне наш, беларускі, і туды я магу паехаць толькі ў госці. Жыць дзесьці я не змагу. Жыць можна і ў нас, іншая справа — як? Але ў маім выпадку ўсё дастаткова проста: я люблю Беларусь і люблю нашых людзей. Так, людзі ўсе розныя, але ў асноўнай сваёй масе беларускі народ добры і прыветлівы. Вось і я такая ж, спадзяюся.

**— Але чаму «добрыя людзі» не хочуць зразумець, што, жывучы ў сваёй краіне, важна гаварыць на сваёй мове, ведаць сваю гісторыю ад глыбіні вякоў, а не ад 1917 года? Чаму бязвольна растварыліся ў расейскім асяроддзі?**

— Мая мама з вёскі, з-пад Узды. Яна згадвае, што калі прыехала ў Мінск, то, зразумела, гаварыла па-беларуску. З яе многія смяяліся, было шмат кпінаў. Для маладой дзяўчыны гэта было, канечне, балюча. І тады яна пачала старацца гаварыць расейскай мовай.

Таму, калі мы з братам Сяргеем былі маленькія, каб з нас не кпілі, мы выхоўваліся расейскамоўнымі. Думаю, такое перажыла большая сем'яў, якія пераехалі ў горад. На лета прыязджаючы ў вёску, натуральна, мы моцна папаўнялі беларускі запас, разумелі сэнс усіх словаў.

Але цяпер сітуацыя іншая. Мы чытаем Мікалаю кніжкі на беларускай мове, народныя казкі, і часам я ад яго чую: «Мама, а што гэта значыць? Нічога не разумею, што ты прачытала». Мне так дзіка.

Здавалася, калі нарадзіўся ў Беларусі, ужо на генетычным узроўні павінен разумець беларускую мову. Даводзіцца канстатаваць, што не. І гэта насамрэч праблема, якую я спрабую выправіць. І дагэтуль вадзіла яго на беларускія спектаклі, а цяпер цешыць, што, калі ён пайшоў у школу, у іх там шмат пазнавальных экскурсіяў, паходаў у тэатры, у тым ліку беларускія. Напэўна, мяне таксама трэба дзесьці прымусіць, прыціснуць, каб я пачала гаварыць па-беларуску.

## Жыць можна і ў нас, іншая справа — як?

**— Вам даводзілася асабіста пераконвацца, што беларусы «забуксавалі» ў савецкім мінулым?**

— Калі я размаўляю з літоўцамі, яны пачынаюць атакаваць: ну што Беларусь? Вось Літва — сіла, наша Вялікае Княства Літоўскае і г.д. Мяне гэта так бярэ за душу, што я адразу пачынаю спрачацца: на якой падставе яны «прыватызавалі» ВКЛ? Тым не менш яны перакананыя, што гэта мы не ведаем гісторыі, нам няправільную падаюць інфармацыю і гэта мы, беларусы, праўды не ведаем. А вось беларусам у большай масе ўсё роўна. Я лічу так: каб палітыка дзяржавы была накіраваная на падачу гістарычнай праўды, то і народ цягнуўся б за гэтымі ведамі. А тут курсы, на жаль, не супадаюць.

**— У той час як літоўцы карыстаюцца «Пагоняй», у Беларусі фактычна забаронены і гістарычны герб, і бел-чырвона-белы сцяг. А хто пад ім ходзіць, аўтаматычна прыраўноўваюцца да апазіцыянераў…**

— Я лічу, што гэта перабор. У кожнага свая праўда. Я такіх забаронаў абсалютна не разумею. У мяне бацька вельмі добра ведаў нашу гісторыю і яшчэ за савецкім часам сам пашыў бел-чырвона-белы сцяг. Яны з мамай часта хадзілі ў паходы, захапляліся водным турызмам, да траўмы брата прайшлі ўвесь Савецкі Саюз, ад Камчаткі да Узбекістана і Кыргызстана, шмат дзе пабывалі. І бацька ўвесь час на байдарцы мацаваў бел-чырвона-белы сцяг. Апазіцыянерам я яго не магу назваць, ён быў проста адукаваны чалавек.

Калі на пачатку 1990-х Станіслаў Шушкевіч стаў кіраўніком Беларусі, тата быў надзвычай задаволены, вельмі ганарыўся за краіну. Я таксама люблю бел-чырвона-белы сцяг за тое, што гэта наша гісторыя. Яна была, навошта яе адкідваць? Шмат людзей лічаць, што ў нас гістарычна павінен быць гэты сцяг. Калі ласка! Дайце ім такую магчымасць, каб яго прынамсі ўшаноўваць, чаму не? Гэта ж гісторыя, яе змяніць нельга, гэта ўжо адбылося! Тым больш, па часе гэты сцяг быў нашмат даўжэй, чым чырвона-зялёны.

**— Вам даводзілася выступаць на спаборніцтвах пад бел-чырвона-белым?**

— На адным з чэмпіянатаў свету ў Галандыі, калі я толькі пачынала ў парусным спорце, да нас падыходзяць арганізатары і запытваюць: скажыце, які ваш сцяг? І паказваюць бел-чырвона-белы і чырвона-зялёны. Мы з трэнерам выбралі бел-чырвона-белы. Прычым гэта было ўжо ў 1998 годзе.

Хацелася пачуцця сапраўднай далучнасці да беларускага народа, нацыі. Для мяне бел-чырвона-белы — гэта сцяг незалежнасці. То бок гэта свабодная краіна, незалежная краіна.

Усё ж чырвона-зялёны — гэта сцяг савецкай рэспублікі. Я не спрачаюся: мы цяпер незалежныя, так. Але, прыкладам, я ў душы вельмі баюся, каб мы не патрапілі пад Расею. Я насамрэч баюся, каб не паўтарылася сітуацыя Савецкага Саюза.

**— Дзякуючы брату Сяргею, каардынатару Офіса па правах людзей з інваліднасцю, вы, напэўна, кантактуеце з прадстаўнікамі «трэцяга сектара». Чаму, адрозна ад іншых краінаў, беларускія ўлады, па сутнасці, ігнаруюць грамадзянскую супольнасць?**

— Разумных людзей проста баяцца. Гэта ўжо амаль не сакрэт. Так, я кантактую з Аленай Танкачовай, нас сапраўды пазнаёміў Сяргей. У мяне, шчыра кажучы, быў шок, калі я трапіла ў тое асяроддзе. Я проста сядзела, маўчала і слухала.

Найперш, я трапіла ў асяроддзе неспартыўнае, абсалютна для мяне нязвыклае. І для мяне радыкальная змена абстаноўкі аказалася вельмі цікавай. Людзі цудоўна ведаюць тую сапраўдную гісторыю, якую не выкладаюць у школах, у ВНУ. Гаворка пра Беларусь, пра нашу гісторыю, пра асобныя моманты, якія мне цікавыя, але я пра гэта нідзе не прачытаю. Магчыма, што насамрэч я гэтымі тэмамі дагэтуль асабліва і не цікавілася, але цяпер давялося на многае адкрыць вочы.

**— То бок пэўныя абставіны прымусілі зацікавіцца палітыкай?**

— Я выдатна ведаю, якая ў краіне палітыка. Я выдатна ведаю, як ставяцца да апазіцыянераў. Я нават ведаю такую сітуацыю, што былую класную кіраўніцу Сярожы папрасілі звольніцца са школы, бо яна нейкім чынам была звязаная з апазіцыяй. Я лічу, што гэта так няправільна! У кожнага чалавека ёсць свой пункт гледжання, навошта кагосьці за гэта душыць? Так, людзі розныя, але ж яны не ворагі сваёй краіне! Можа, наверсе баяцца нейкага перавароту? Але ж гэта глупства! Пераварот будзе, калі людзям не даваць выказвацца. Таму, калі я ўсё шырэй пазнаю кола зносінаў Сяргея, мне ўсё больш цікава адкрываць для сябе штосьці новае, бо я трапляю ў зусім іншы свет. Для мяне гэта людзі з нейкага іншага вымярэння. Яны сапраўды вельмі разумныя, вельмі шмат ведаюць і рэальна робяць для краіны.

**— Таццяна, якія спаборніцтвы вас чакаюць найбліжэйшым часам?**

— 19 студзеня я адлятаю ў Маямі, там будзе трэці этап Кубка свету. Потым, на пачатку красавіка, на Пальма-дэ-Мальёрка запланаваны чацвёрты этап, а пры канцы красавіка ў Францыі стартуе пяты. Першынство Еўропы ў мяне сёлета будзе ў Харватыі, у чэрвені, а Чэмпіянат свету, на якім будуць разыгрываецца першыя ліцэнзіі на Алімпіяду-2016, пройдзе ў верасні ў Іспаніі.

**Ігар Карней, радыё «Свабода»**




**Таццяна Драздоўская**

Нарадзілася 6 снежня 1978 у Мінску, скончыла Беларускі дзяржаўны інстытут фізічнай культуры. У 14 гадоў перайшла з секцыі плавання ў парусны спорт. Упершыню выступіла на спаборніцтвах «Кубак Мінска», а ў 1996-м яе залічылі ў штатны склад зборнай Беларусі. Міжнародны дэбют адбыўся ў 1997-м на «SpaRegatta» у Галандыі. У 2000-м выканала нарматыў майстра спорту міжнароднага класа. У 2007-м стала чэмпіёнкай свету. Удзельніца чатырох Алімпіяд, кандыдатка на ўдзел у Алімпіядзе-2016.



BRIAN LINDBERG JENSEN

Зборная Беларусі прабілася ў другі раўнд гандбольнага Чэмпіянату Еўропы. Сяргей Рутэнка (на фота) паранейшаму цягне каманду за сабой, ён уваходзіць у тройку найлепшых бамбардзіраў спаборніцтва.



СЯРГЕЯ ЗІНІНА

Маразы пратрымаюцца ў Беларусі як мінімум тыдзень.



СЯРГЕЯ ЗІНІНА

Былы камандзір вайсковай часткі спецназу 3214 Дзмітрый Паўлічэнка адзначае Вадохрышча. Яго падазравалі у датычнасці да палітычных забойстваў у Беларусі.



Мама з Расіі зрабіла серыю чароўных здымкаў сваіх дзяцей з жывёламі. Здымкі Алены Шумілавай пагружаюць нас у шчаслівы свет маленства на прыродзе. Яны адкрываюць іншую Расію — далёкую ад Масквы і так падобную да нашых, еўрапейскіх, малых радзім.

## Анекдоты і жарты

Учора атрымаў заробак з абяцанай урадам індэксацыяй. Нават банкамат зарагатаў.

* * *

Найлепшым аўто кітайскага завода ў Беларусі прызнаны BMW дырэктара.

* * *

Са спектакля «Пан Тадэвуш» прыбралі «ідэалагічна няправільную» «Пагоню». І ўсё ж штосьці ў ім застаецца не так. Яшчэ словы «пан» і «Тадэвуш» неяк... муляюць.

* * *

Жонка кажа мужу:

— Даражэнькі, да нас прыйшло шмат гасцей, не хапае аднаго крэсла. Схадзі да суседзяў, пасядзі пакуль у іх.

* * *

Бацька-паляўнічы ўсё ж забіў мядзведзя. Мяса ён пакінуў сабе, футра падарыў жонцы, а цыркавы ровар застаўся сыну.

* * *

Найлепшы спосаб расказаць дзецям пра падаткі — гэта з'есці 12% ад іх марожанага.

* * *

— А чаму ў вас дзеці такія сівыя?

— А я ім на на ноч замест казак праўду расказваю.

* * *

У дзяцінстве, здаралася, зловіць цябе дзядзька на крадзяжы яблыкаў — ты плачаш і моліш, каб адпусціў. Цяпер дзецям прасцей. Дастаткова крыкнуць: «Дапамажыце! Педафіл!» — і ўжо дзядзька плача і моліць...

* * *

Трактарыст Васіль сеў у навюткі «Бэнтлі» і памёр ад камфорту.

* * *

Школьная форма патрэбная, каб адрозніваць у школе старшакласніц ад настаўніц.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Смаргонь.** Было ў горадзе правіла: не пушчаць свіней па вуліцах. Быў суддзя — той, кажуць, сам выслежваў свіней, і відзіў у гэтым дзеле мэту жыцця. Ну і бяда была, калі часам парсючок прабяжыць па вуліцы за свінкай! Цяпер усё змянілася. Ужо даўно няма ў Смаргоні таго суддзі. Цяперашні ж не мае імпэту да свіней. Не любіць ганяцца за імі. Вось свінні і пачулі волю. Смела выходзяць на тратуары.

**«НН». №3. 1914.**

**Ціхі старт «Пяцёркі+».** Апазіцыя аб'ядналася ў адзіную перадвыбарчую кааліцыю. Гэтага сігналу чакалі на Захадзе і Усходзе.

**«НН». №3. 2004.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 21.01.2014.
Замова №293.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14003